№ 24 (765) 27 чэрвеня 2012 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноў... ...ai 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у сераду

## «Беларускія каментатары мацнейшыя за расейскіх»

Павел Баранаў пра «Еўра» і сакрэты прафесіі. Старонка 9.



## 19-гадовы студэнт выпраўляецца ў кругасветнае падарожжа

3 сабой у Яўгена Ціханава толькі 500 даляраў. Старонка 8.



# Што для роднай мовы можаш зрабіць ТЫ

Не ведаеш беларускую — тады **падтрымай яе носьбітаў рублём**. **Старонка 12.**



**Шматразовы чэмпіён свету па кікбоксінгу Віталь Гуркоў заўсёды публічна гаворыць толькі па-беларуску.**

PHOTO.BYMEDIA.NET

## Андрэй Пачобут: «Раней я быў адной нагой у турме, цяпер — дзвюма»

21 чэрвеня журналіст «Газеты Выборчай» быў арыштаваны за **«абразу прэзідэнта»**.

Кажуць, што двойчы снарад у адну варонку не трапляе, але гэта не пра Андрэя Пачобута. Летась ён быў арыштаваны і асуджаны за «паклёп на прэзідэнта». Сёлета гісторыя паўтарылася.

Вечарам у чацвер на кватэру да Андрэя прыйшлі супрацоўнікі міліцыі. Правялі ператрус, забралі камп'ютар. Узялі з сабой у пастарунак і Пачобута. Там журналіст адмовіўся даваць паказанні. У той самы вечар яго пакінулі ў ІЧУ, а праз пару дзён перавялі ў гродзенскую турму.

Прычынай для арышту сталіся публікацыі на сайтах «Хартыя-97» і «Беларускі партызан», а дакладней публікацыі пра абвінавачаных у тэракце і расстраляных Канавалаву і Кавалёву. Пачобут дазволіў сабе некалькі ацэначных момантаў, але ніяк не абразаў.

Рэпрэсіі супраць Саюза палякаў і персанальна Андрэя Пачобута заўсёды былі сігналам да Польшчы. Старшыня АГП Анатоль Лябедзька мяркуе: «Арышт Пачобута — якраз кропкавы ўдар па тых, хто яшчэ не саспеў для «новай стратэгіі». Ён лічыць, што цяпер еўрапейцы могуць прапанаваць Беларусі пачаць будаваць адносіны з чыстага аркуша. То бок Пачобут у гэтай справе — інструмент для «прымусовага міру».

**Працяг на старонцы 3.**

### Грамадства

## «За год у Беларусі адстрэльваюць 10 тысяч бакланаў»

У Чашніках расследуюць жывадзёрства. **Старонка 6.**



### Гаспадарка

## Беларусь будзе жыць па законах СГА

Не ўваходзячы ў яе. Бо туды ўступае Расія. **Старонка 5.**




### Здарэнні

## Два вяселлі ў Robinson Club кепска скончыліся

Госці трапілі ў інфекцыёнку. **Старонка 7.**




### Культура

## Доктар, распішыцеся!

Х'ю Лоры ў Мінску наведаў музей і павячэраў у «Гранд Кафэ». **Старонка 11.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Лукашэнка паляцеў на былым самалёце Туркменбашы

Новы Boeing-767-300ER каштуе каля **170 мільёнаў даляраў**.



БТ паказала, як «борт №1» прызямляецца ў аэрапорце Гаваны і як з трапа сходзяць Лукашэнка-бацька і Лукашэнка-сын.

Раней Аляксандр Лукашэнка лётаў на сярэднемагістральным самалёце Boeing-737, які не мог даляцець да Кубы без дазапраўкі. З гэтым быў звязаны нават канфуз, калі Канада не дала дазволу на пралёт над сваёй тэрыторыяй.

Новы лайнер Boeing-767-300ER можа праляцець без дазапраўкі і 10400 кіламетраў. Раней ён належаў нябожчыку Сапармурату Ніязаву, прэзідэнту Туркменістана.

Пра куплю-продаж самалёта стала вядома пасля візіту цяперашняга прэзідэнта Туркменіі Бердымухамедава ў Мінск у красавіку.

Кошт новага Boeing-767 на міжнародным рынку складае ад 170 мільёнаў даляраў у залежнасці ад мадыфікацыі. «Боінг» Ніязава не новы. Затое ён быў выкананы ў VIP-варыянце: у аздабленні салона былі ўжытыя натуральная скура і каштоўныя пароды дрэва, а сантэхніку ў душавой і туалетах аздаблялі каштоўныя металы і камяні.

Акрамя таго, самалёт абсталяваны сістэмай прадухілення паражэння ракетамі класу «зямля-паветра» і «паветра-паветра», а таксама парашутным рыштункам.

Пра цану самалёта афіцыйнай інфармацыі пакуль не было.

**Сяргей Гезгала; Радыё «Свабода»**

**Рэкамендуем**



АНДРЭЙ МАКАЁНАК

**Чытайце на nn.by цыкл артыкулаў Андрэя Макаёнка пра кавярні Мінска. На фота — торты ў Bakery du Soleil.**

## Беларускамоўных гімназістаў пабольшала

Найбольшую колькасць беларускамоўных пяцікласнікаў набралі ў гімназіі №4 (Кунцаўшчына) — чатыры класы па 20 вучняў. У гімназіі №14 на вуліцы Васняцова — тры класы па 20 вучняў. У 28-й гімназіі, што на праспекце Ракасоўскага, у 5-х класах будуць вучыцца 49 дзяцей. У гімназіях №9 (вуліца Сядых, Зялёны Луг) і № 23 (праспект Незалежнасці каля плошчы Якуба Коласа) — па 40 вучняў.

Нагадаем бацькам: падаць заяву на навучанне ў 1-х класах з беларускай мовай можна да канца жніўня.

**Сямён Печанко**

## Беларусь як прадмет

400 навукоўцаў возьмуць удзел у II **Міжнародным кангрэсе даследчыкаў Беларусі.**

У аргкамітэт Кангрэсу даследчыкаў Беларусі паступіла беспрэцэдэнтная колькасць заявак. Прыйшлі заяўкі ад даследчыкаў з Беларусі, Польшчы, Літвы, Латвіі, Германіі, Чэхіі, Расіі, Канады, Францыі, Фінляндыі, Бельгіі, Вялікабрытаніі, Венгрыі, Японіі, Малдовы, Нідэрландаў, Румыніі, Швецыі і ЗША.

Кангрэс адбудзецца ў верасні ў Літве.

**Ул. інф.**

**Фільм пра «Сраліна» не прайшоў цэнзуру ў Беларусі**

Кіно «Служу Савецкаму Саюзу», заяўленае ў тэлепраграме канала НТВ-Беларусь 22 чэрвеня, так і не з'явілася ў эфіры. Замест яго гледачы ўбачылі першыя кадры фільма «Маньчжурскі кандыдат».

**Вырвалася**

## «З Макаёнка, 9 усё выглядае інакш»

Тэлекаментатар Уладзімір Навіцкі ў часе трансляцыі матчу Італія-Англія.

**Да ведама**

**У банкаматах «Беларусбанка» нельга будзе заплаціць за стацыянарны тэлефон і Byfly**

Аплату паслуг сувязі «Белтэлекама» можна будзе ажыццявіць праз SMS-банкінг, М-банкінг і Інтэрнэт-банкінг, а таксама ў інфакіёсках і аддзяленнях банка.



**Сцісла**

**Дарафеева стала загадчыцай кафедры**

34-гадовая спявачка стала загадчыцай кафедры эстраднага майстэрства ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў. Усю гэтую пяцігодку спявачка лічылася «тварам Беларусі». Апошнія 7 гадоў спявачка яшчэ й выкладала.

**Зноў арыштаваны аўтар «Мусарка»**

Як паведаміў журналіст Аляксандр Баразенка, які ў аўторак у турме на Акрэсціна перадаваў перадачу для знаёмых, ён убачыў, як Івана Амельчанку выводзілі з міліцэйскага бобіка. Па апошняй інфармацыі, Івану далі 15 сутак. З чым звязана цяперашняе затрыманне, невядома. Мяркуюць, што такім чынам улады хочуць гарантаваць «ідэальнае» правядзенне парада 3 Ліпеня. На нарах апынуўся таксама былы палітвязень Павел Вінаградаў і Аляксандр Арцыбашаў.

**Польшча не выдасць Пыжыка**

Былы следчы з Жодзіна Андрэй Пыжык атрымаў статус уцекача. Ён сцвярджае, што прэтэнзіі да яго з'явіліся, калі ён адмовіўся фабрыкаваць справу апазіцыянера, былога афганца Камароўскага.

**Туркі збудуюць у Беларусі порт**

Ён паўстане на Дняпры, у Брагінскім раёне Гомельскай вобласці. Тэрміналы будуць прыстасаваныя для перавалкі розных грузаў — у тым ліку нафтагрузаў і, у перспектыве, звадкаванага газу. Каштаваць аб'ект будзе каля 10 млн даляраў.

**Жніво будзе раннім**

Яно можа пачацца на 1—1,5 тыдня раней. Прынамсі, надвор'е да таго вядзе.

**Выстава калекцыі Пефціева**

У Музеі Вялікай айчыннай пройдзе выстава, прысвечаная вайне 1812 Незвычайнасць у тым, што ўсе экспанаты — з унікальных калекцый мільянера Уладзіміра Пефціева і лаўрэата прэзідэнцкай прэміі «За духоўнае адраджэнне» Уладзіміра Ліхадзедава. Дарэчы, 1 ліпеня былы ўладальнік найбуйнейшай у Беларусі кампаніі па экспарце-імпарце прадукцыі ваеннага прызначэння ЗАТ «Белтэхэкспарт» Уладзімір Пефціеў будзе святкаваць 55-годдзе.

**СГ**

**Самае чытанае на nn.by за 20—26 чэрвеня**

1. Арыгінальны касцюм выпускніка БДЭУ — фотафакт
2. Беларусь вачыма замежніка: жахлівыя будынкі, ніхто не смяецца, цяжар дыктатуры
3. Арэлі для Колі
4. «Міс Грудзі» Кацярына Нікандрава падтрымала палітвязняў фотасесіяй
5. Пенсіянерка прайшла па Кастрычніцкай плошчы з бел-чырвона-белым сцягам
6. У Мінску знікла дзяўчына
7. Два вяселлі ў шыкоўным «Robinson Club» кепска скончыліся
8. У Беларусі сабралі першыя два Geely
9. 5-гадовую дачку спевака Ромы Жукава забіла гойдашкай
10. Крой і таямніцы Маршу Свабоды '99 —архіўнае відэа

# Андрэй Пачобут: «Раней я быў адной нагой у турме, цяпер — дзвюма»

Працяг са старонкі 1.

А вось аналітык Юры Дракахруст выказаў меркаванне, што гэта месідж зусім не Захаду. Ад якога невядома, ці атрымаеш грошай за вызваленне палітвязняў. А вось грошы з Масквы за незбліжэнне з Еўропай абсалютна рэальныя.

Паводле артыкула 368 КК «Абраза прэзідэнта», Пачобуту пры паўторным парушэнні можа пагражаць да пяці гадоў турмы. Пакуль ён знаходзіцца ў статусе падазраванага, у абвінавачаныя яго могуць перавесці бліжэй да канца тыдня.

Летась Пачобута асудзілі за «паклёп на прэзідэнта», але ў турму не адправілі. Далі тры гады ўмоўна.

26 чэрвеня жонка Пачобута Аксана мела спатканне з мужам у турме. «Размаўлялі праз шкло дзве гадзіны. Дзяцей вырашыла пакуль што з сабой не браць», — расказвае жанчына.

Аксана даведалася, што муж сядзіць адзін у камеры, якая разлічана на чатырох чалавек. «Канечне, сумна аднаму. Але калі ёсць кнігі, то гэта троху згладжваецца. Прасіў паболей кніг перадаваць». Пра адзіночную камеру нібыта загадаў начальнік турмы.

Андрэй не каментуе сваё затрыманне, бо не супрацоўнічае са следствам, нават не ведае, за які канкрэтна артыкул яго прыцягнулі да адказнасці. «Кажа, што рыхтаваўся да турмы. Перадаў такія словы, што апошні год ужо быў адной нагой у турме, а цяпер — дзвюма».

**Зміцер Панкавец**

Пісаць Пачобуту можна на наступны адрас: Пачобут Андрэй, 230023, г. Гродна, вул. Кірава, 1, следчая турма №1.

**Андрэй Пачобут**

Нарадзіўся ў 1973 у мястэчку Вялікая Бераставіца. Журналіст, публіцыст і блогер, актывіст Саюза палякаў Беларусі (СПБ). Працаваў у гродзенскіх газетах «Пагоня», «Дзень», «Мясцовы час», «Глос з-над Немна», быў карэспандэнтам мінскай незалежнай газеты «Народная Воля». Займаў пасаду галоўнага рэдактара Magazynu Polskiego na uchodźstwie. З 2006 з'яўляецца карэспандэнтам «Газеты Выборчай». Жыве ў Гродне. Жанаты, гадуе дачку і сына.



**Эштан і Туск выступілі ў падтрымку Пачобута**

Вярхоўны камісар Еўрасаюза па знешняй палітыцы Кэтрын Эштан і прэм'ер-міністр Польшчы Дональд Туск выступілі ў падтрымку Андрэя Пачобута.

Эштан, у прыватнасці, заклікала беларускія ўлады спыніць перaслед актывістаў апазіцыі і незалежных СМІ. Эштан заклікала Мінск спыніць ціск і дазволіць грамадзянам рэалізоўваць правa на грамадскую і журналісцкую дзейнасць.

Туск заявіў, што за справай Пачобута сочаць польскія дыпламатычныя службы, і выказаў шкадаванне, што Польшча чарговы раз павінна цісн уць на рэжым Лукашэнкі ў сувязі з затрыманнем апазіцыянераў.

**Фотафакт**



**Аляксандр Лукашэнка здзяйсняе лацінаамерыканскае турнэ. Спачатку ён прыляцеў на Кубу, дзе правёў перамовы з Раулем Кастра. Палітолагі пажартавалі, што нічога, апроч антыамерыканізму, на Кубе кіраўнік Беларусі не знодзе. Сапраўды, Лукашэнка заклікаў улады ЗША спыніць блакаду Кубы. З Гаваны Лукашэнка вылецеў у Венесуэлу, да свайго сябра Уга Чавэса. «Тое, што робіць Чавэс, гэта палітыка будучыні. Ён малайчына», — так расхвальваў венесуэльскага прэзідэнта беларускі калега. У Венесуэле восенню выбары, і візіт Лукашэнкі можна разглядаць як падтрымку Чавэса. Праўда, невядома, ці ён пераможа. Не самы дальнабачны крок. Апошнім пунктам праграмы стане Эквадор. На Кубе Лукашэнку пераследавалі выявы рэвалюцыянера Чэ Гевары.**

## Год Каліноўскага

З такой ініцыятывай выступілі **Някляеў і Мілінкевіч**.

У сувязі з 150-мі ўгодкамі вызваленчага паўстання 1863 года створаны аргкамітэт па ўшанаванні герояў, а 2013 год абвешчаны Годам Кастуся Каліноўскага.

Сустаршынямі аргкамітэта абраныя доктар гісторыі Янка Запруднік, лідар Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч і кіраўнік кампаніі «Гавары праўду» Уладзімір Някляеў. Усяго ў аргкамітэт увайшло каля 30 выбітных асобаў: гісторыкаў, мастакоў, журналістаў, грамадскіх дзеячаў.

У планах аргкамітэта — шырока адзначыць 150-я ўгодкі паўстання супольна з літоўцамі і палякамі. Аргкамітэт звярнуўся ва ўрад і нацыянальны сход Беларусі, ва ўрады і парламенты Літвы і Польшчы з прапановай разам ушанаваць юбілей паўстання. Аргкамітэт мае прапановы ў Год Каліноўскага правесці навуковыя канферэнцыі, мастацкія пленэры і выставы, стварыць фільм, упарадкаваць магілы паўстанцаў 1863.

Нагадаем, што 22 мая 2012 парламент Літвы афіцыйна абвясціў 2013 год Годам Паўстання 1863, «улічваючы гістарычнае і культур-



нае значэнне Паўстання на літоўскіх, беларускіх і польскіх землях». Значэнне гэтай падзеі падчас савецкай акупацыі было падарванае і скажонае, таму маючы адбыцца юбілей дае магчымасць аб'ектыўна зірнуць на гісторыю паўстання, пераасэнсаваўшы яго ў палітычным кантэксце, казалася ў пастанове парламента.

**АГ**

## У студэнтаў адабралі бясплатны праезд

**Школьнікі працягваюць** ездзіць бясплатна.

Льготаў ад 1 ліпеня пазбаўляюцца студэнты ВНУ, установаў прафесійна-тэхнічнай ды сярэдняй спецыяльнай адукацыі.

«Адмена льготы звязана з масавым ад'ездам студэнтаў на летні перыяд дахаты, у студатрады. Магчыма, да пачатку новага навучальнага года гэтае пытанне будзе перагледжана ў сталіцы», — кажуць у гарвыканкаме.

Ёсць меркаванне, што пад парламенцкія выбары бясплатны праезд вернуць. Разам з тым, школьнікі будуць працягваць ездзіць бясплатна.

**ЛМ**

**Сцісла**

**Арыштавалі журналіста «Еўрарадыё»**

Паўла Свярдлова затрымалі каля дома, абвінавацілі ў нецэнзурнай лаянцы і асудзілі на 15 сутак. Ён сядзіць у адной камеры з лідарам моладзі «Змена» Паўлам Вінаградавым.

**Алег Воўчак прапануе зачыніць Акрэсціна**

да прывядзення ўмоў утрымання ў ім у адпаведнасць з заканадаўствам. Нядаўна праваабаронца адседзеў там 9 сутак арышту.

**Гайдукевіч: Апазіцыя і ЛДПБ у парламент не трапяць**

«Выбараў у краіне няма. Іх проста тупа няма. І сур'ёзным палітычным партыям, якія налічваюць дзясяткі тысяч чалавек, патрэбна прымаць сур'ёзныя рашэнні, а не расказваць людзям казкі», — лічыць лідар ліберал-дэмакратаў.

**Былы палітвязень стаў прэзідэнтам Егіпта**

Пасля доўгага вагання і масавых акцый пратэсту вайскоўцы прызналі перамогу ісламіста Мухамеда Мурсі. Мурсі абяцае захаваць Егіпет свецкай дзяржавай, з роўнымі правамі для мусульман і хрысціян, мужчын і жанчын.

**ЗП, МБ**

# «Аліева можна крытыкаваць, але цябе за гэта могуць біць»

**Азербайджан — копія беларускай сістэмы.** Толькі са сваёй нафтай.

Анар Оруджаў — дырэктар інтэрнэт-тэлебачання «Канал-13». Гэта незалежны СМІ. Ён прыехаў у Беларусь, каб падзяліцца сваім досведам з калегамі. У Рэдакцыі «НН» Анар расказаў пра сваю краіну.



У сіве Баку разам з нафтай прыйшлі вялікія грошы.

### Палітвязні пішуць прашэнні

**«Наша Ніва»: Падабенстваў паміж Беларуссю і Азербайджанам шмат?**

**Анар Оруджаў:** Я некалькі дзён у Беларусі і чуў, што ў Гродне быў арыштаваны журналіст [Андрэй Пачобут — «НН»]. Дык вось у Азербайджане таксама нядаўна арыштавалі журналіста. Вось і паралелі.

**«НН»: Вы маеце на ўвазе Гілала Мамедава, аўтара роліка «Давай, да спаданія»?**

**АО:** Так. У Азербайджане прэсінг на журналістаў бывае вельмі частым. Я не ведаю гэтага рэдактара Tolishi Sado («Голас Талыша»). Але калі супраць яго выкарыстоўваюць артыкул пра захоўванне наркотыкаў, то яго проста хацелі арыштаваць.

**«НН»: Колькі ў Азербайджане цяпер палітвязняў?**

**АО:** У нас было некалькі чалавек у турмах за тое, што яны праводзілі акцыі пратэсту. Але некалькі дзён таму прэзідэнт Аліеў падпісаў указ аб памілаванні гэтых людзей. Аднак у турмах застаюцца яшчэ палітычныя.

**«НН»: Чаму Аліеў памілаваў арыштаваных?**

**АО:** Яны пісалі прашэнні на імя прэзідэнта. Нядаўна ў Баку было «Еўрабачанне». Замежныя журналісты шмат пісалі, што ў Азербайджане не ўсё добра з правамі чалавека. Пасля гэтага можна было чакаць вызваленняў. «Еўрабачанне» дапамагло паказаць, што ў Азербайджане ёсць праблемы.

### Укідваюць бюлетэні

**«НН»: Парламент у Азербайджане незалежны ад прэзідэнта?**

**АО:** Не. Рада Еўропы і АБСЕ не прызналі выбары свабоднымі. Я быў назіральнікам на выбарах. У каго былі добрыя адносіны з дзяржавай, тыя і былі выбраныя. Астатнія, хоць і добрыя кандыдаты, але яны не прайшлі. Былі фальсіфікацыі і выкарыстанне дзяржаўных рычагоў.

**«НН»: Вы бачылі фальсіфікацыі асабіста?**

**АО:** Так, я бачыў. Старшыня выбарчай камісіі ўкінуў 40 бюлетэняў за праўладнага кандыдата. Гэта былі галасы тых людзей, да якіх трэба было ехаць са скрыняй, бо яны не маглі прыйсці на ўчастак. Я папытаўся, што ён робіць, але той нічога не адказаў. Мы фіксавалі гэтыя парушэнні, але вельмі рэдка вынікі скасоўваюць.

**«НН»: У парламенце ёсць апазіцыйныя палітыкі?**

**АО:** Толькі адзін. Старшыня партыі «Уміт» Ігбал Агазадэ. Ёсць іншыя дэпутаты з маленькіх партый. Але яны не лічацца рэальнай апазіцыяй. Раней яны былі ў іншых апазіцыйных партыях, але сышлі адтуль. Яны імкнуцца быць незалежнымі, але не могуць, бо дзяржава давала ім мандат.

**«НН»: Ёсць партыя ўлады?**

**АО:** Так. Гэтая партыя называецца «Новы Азербайджан». Яе яшчэ стварыў Гейдар Аліеў. Яна мае большасць у парламенце.

### Хто з'ехаў, хто ў бізнэс

**«НН»: Сярод апазіцыі ёсць рэальныя суперніхі Ільхаму Аліеву?**

**АО:** Цяпер цяжка сказаць. Ёсць партыі, якія лічацца мацнейшымі, — «Мусават» («Роўнасць») і Партыя Народнага Фронту Азербайджана, але яны згубілі шмат. У 2003—2005 яны былі вельмі моцнымі. У 2003, пасля смерці Гейдара Аліева, быў пік палітычнай актыўнасці. Шмат хто думаў, што будуць перамены, прыйдзе да ўлады нехта з дэмакратаў. Але не ўдалося, сын Гейдара стаў прэзідэнтам. У 2005 каля дзесяці дэпутатаў ад апазіцыі трапілі ў парламент. Пасля гэтага пайшоў спад. Людзі сталі губляць надзею. Шмат хто не захацеў заставацца ў апазіцыі, бо нічога не маглі змяніць. Іншыя з'ехалі ў Еўропу і ЗША. Трэцяя група — гэта людзі, што займелі вялікія грошы ад нафты. Палепшала эканамічная сітуацыя ў краіне. Некаторыя думалі, што лепей мець маленькі бізнэс, чым займацца палітыкай.

**«НН»: А суды захавалі незалежнасць?**

**АО:** Не. Абмяркоўваць гэта ўвогуле бессэнсоўна.

**«НН»: Аліеў карыстаецца азербайджанскай мовай ці расейскай?**

**АО:** Публічна — толькі азербайджанскай. Першыя гады ён гаварыў з расейскім акцэнтам, цяпер лепш. На азербайджанскай мове функцыянуе армія і паліцыя. Гэта як увялі ў часы Народнага Фронту, так яно і засталося.

### Еўропа прыплюшчвае вочы

**«НН»: Апазіцыйных газет шмат застаецца?**




**Азербайджан**

краіна ва ўсходняй частцы Закаўказзя на паўднёва-заходнім узбярэжжы Каспійскага мора. Мяжуе з Расіяй (Дагестанам), Грузіяй, Арменіяй, Іранам, Турцыяй. Сталіца — Баку. Насельніцтва — 9 мільёнаў чалавек. Азербайджан, дзякуючы нафтавым грошам, лідзіруе ў СНД па эканамічным росце. Прэзідэнт — Ільхам Аліеў. Перад гэтым на пасадзе быў ягоны бацька Гейдар.

**АО:** Апазіцыйныя нават больш папулярныя. Напрыклад, «Азадлыг» («Свабода») і «Мусават». Яны прадаюцца ў шапіках, з рук. У гэтых газет штодзённы наклад дзесьці 15 тысяч. У гэтых самых газет інтэрнэт-версію штодня наведвае каля 25 тысяч чалавек. Асабліва ў «Мусавата». Ёсць папулярныя і дзяржаўныя сайты.

**«НН»: Еўропа крытыкуе стан рэчаў у Азербайджане?**

**АО:** Часам крытыкуе, часам заплюшчвае вочы. Нафта! Але часам ёсць крытыка. Дыскутуюць на сустрэчах з азербайджанскай апазіцыяй.

### Пра асабістае жыццё Аліева вядома

**«НН»: Аліева крытыкаваць можна?**

**АО:** Вядома. У нас ужо не савецкія часы. Можна крытыкаваць, вельмі моцна, нават лаяць. Але за гэта цябе можа нехта біць, можна ў турму трапіць, гэта таксама бывае. Але крытыка не забароненая.

**«НН»: Азербайджанскія чыноўнікі адкрытыя для кантактаў?**

**АО:** Не вельмі. Ёсць дзяржаўныя кампаніі, якія зацікаўленыя ў добрых адносінах з прэсай. Яны робяць адкрытымі свае прыбыткі. У многіх ёсць вельмі аператыўныя сайты. Напрыклад, у прэзідэнта. Сайт МУС таксама добра працуе.

**«НН»: Асабістае жыццё Аліева адкрытае для прэсы?**

**АО:** Цікавае пытанне (смяецца). У параўнанні з Беларуссю ў нас больш адкрыта. У нас вядома, што прэзідэнт будуе новую адміністрацыю. Мы ведаем, што дачка прэзідэнта выйшла замуж за сына мільярдэра, сын жыве ў Расіі. Мы ведаем, што другая дачка таксама выйшла замуж за яшчэ аднаго азербайджанскага мільярдэра. Мы ведаем, у якіх мерапрыемствах удзельнічае сын прэзідэнта. Гэта ўсё адкрыта. Замежныя медыі пішуць, што чалавек, які супадае па імені з сынам прэзідэнта, мае вілу за 75 мільёнаў даляраў у Дубаі. «Вашынгтон пост» піша гэта, і нашы СМІ таксама пішуць. Ёсць дыскусія ў медыях пра жыццё прэзідэнта.

### Пра Беларусь не чуваць

**«НН»: Жыццё людзей лепшае?**

**АО:** Так, дзякуючы нафце. Калі б у нас не было карупцыі, то было б яшчэ лепей. Самая вялікая праблема для Азербайджана — гэта карупцыя нават на самым нізкім узроўні. Нават чалавек з ЖЭСа за даведку хоча атрымаць 5-10 манатаў (4-8 даляраў).

**«НН»: Колькі сярэдні заробак па Баку?**

**АО**: Здаецца, каля 500 даляраў. У рэгіёнах менш. Баку апошнім часам вельмі змяніўся, шмат новых будынкаў. Такія прыгожыя, аграмадныя навабуды, нават можна параўнаць з Дубаі. Зрабілі новую дарогу да аэрапорта. За кожны кіламетр дарогі яны трацілі каля 10 мільёнаў даляраў. У нас і такое бывае.

**«НН»: Увогуле азербайджанцы кім сябе лічаць — еўрапейцамі ці азіятамі?**

**АО:** Еўрапейцамі. Хоць нам трэба шмат вучыцца, каб быць еўрапейцамі. Мы лічым сябе еўрапейцамі, але рэальны ўзровень гэтых людзей ніжэйшы. У Азербайджане толькі два ўніверсітэты трапляюць у 10 тысяч найлепшых універсітэтаў свету.

**«НН»: Замежныя інвестыцыі ў Азербайджан ідуць?**

**АО:** Раней ішло шмат. Цяпер у нас ёсць вельмі багатыя людзі, якія працуюць усюды. Цяпер Азербайджан сам укладвае грошы ў Сербіі, Малдове, Грузіі. Хоча наша нафтавая кампанія купіць запраўкі ў Швейцарыі.

**«НН»: Беларусь неяк прысутнічае ў Азербайджане?**

**АО:** Па-мойму, не. Няшмат чуваць пра сувязі з Беларуссю ў эканамічнай сферы.

Гутарыў Зміцер Панкавец



Анар Оруджаў за працай.

# «Беларусь будзе жыць па законах СГА, не будучы ў ёй»

**Уступленне Расіі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю зменіць правілы гульні для беларускай эканомікі.**

У канцы лета Расія канчаткова ўступіць у Сусветную гандлёвую арганізацыю (СГА) — сусветную зону свабоднага гандлю з нізкімі мытамі. Для таго каб пацвердзіць раней падпісаныя пагадненні, усходнім суседзям засталося ратыфікаваць пратакол аб далучэнні да СГА ў парламенце, а таксама дачакацца подпісу прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна. Грамадскага абмеркавання не было — улады прынялі палітычнае рашэнне насуперак меркаванню сацыялістычнай і камуністычнай парламенцкай апазіцыі.

### Лепш для купца

Дагэтуль гучаць супрацьлеглыя прагнозы наконт таго, ці прынясе гэта Расіі выгаду, ці наадварот, ударыць па мясцовых вытворцах. Прэзідэнт Ашчадбанка Расіі Герман Грэф агучыў падлікі Сусветнага банка: згодна з імі, у доўгатэрміновай перспектыве краіна атрымае выгаду $162 мільярды (гэта 11% ад ВУП).

Скептыкі сцвярджаюць, што патэнцыйны прыбытак атрымае не Расія, а сусветныя карпарацыі, перад якімі адкрываецца гіганцкі расійскі рынак. А многія вытворцы проста не вытрымаюць

Сусветная гандлёвая арганізацыя (World trade organization, WTO) — міжнародная арганізацыя, створаная з мэтай лібералізацыі міжнароднага гандлю і рэгулявання гандлёва-палітычных адносінаў дзяржаў. Арганізацыя існуе з 1995, але з’яўляецца правапераемніцай Генеральнага пагаднення па тарыфах і гандлі, якое было прынята ў 1947. На дадзены момант у СГА уступілі 155 краінаў свету. Беларусь — сярод апошніх «не сяброў».




канкурэнцыі з замежнікамі. Зрэшты, некаторыя сектары эканомікі расійскія ўлады змаглі часова вывесці па-за межы свабоднага рынку. Гэта значыцца, што абмежавальныя мыты будуць змяншацца ў некалькі этапаў, каб змякчыць удар. «Гэта пытанне пра тое, што для краіны больш істотна: дабрабыт 140 мільёнаў спажыўцоў

## Затое можа патаннець мяса

ці 17 мільёнаў вытворцаў і 3 мільёнаў чыноўнікаў? На мой погляд, адказ відавочны, — мяркуе аглядальнік расійскага часопіса «Огонек» Уладзіслаў Іназемцаў. — Расія робіць выбар паміж рынкам прадаўца, які існаваў у СССР, і рынкам купца, ва ўмовах якога даўно жыве большасць развітых краінаў».

### Беларускае пытанне

Ва ўступленні Расіі ў СГА ёсць і канкрэтны інтарэс нашай краіны. Пры стварэнні Мытнага саюза і Адзінай эканамічнай прасторы Беларусь і Казахстан фактычна «падагналі» сваё заканадаўства пад нормы расійскага рынку. Найбольш адчувальным для нашай краіны было павелічэнне мытаў на патрыманыя аўтамабілі. Цяпер Расія па патрабаванні СГА уводзіць новыя мыты. Як гэта закране Беларусь?

«Мыты пачнуць змяняцца ўслед за расійскімі, — тлумачыць эканаміст Сяргей Чалы. — Мы нейкі час будзем жыць па правілах СГА, не знаходзячыся ў ёй. Праўда, пры гэтым у Беларусі не будзе магчымасці выкарыстоўваць механізмы СГА ў выпадку магчымых спрэчных пытанняў».

Наколькі новая сітуацыя зменіць гандлёвы баланс Беларусі? «Экспарт у краіны Еўрасаюза практычна не зменіцца, — прагназуе ён. — Галоўная праблема — магчымае зменшэнне экспарту ў Расію і магчымы рост імпарту праз Расію на тэрыторыю Мытнага саюза, а значыцца, і ў Беларусь».

«Ёсць і дадатковыя пытанні. Напрыклад, калі імпарт праз Расію вырасце, Масква можа запатрабаваць перагляду долі мытаў», — дадае эксперт. На дадзены момант расійскі бюджэт атрымлівае каля 88% ад агульнага аб’ёму імпартных мытаў. Доля Беларусі і Казахстана складае 4,7% і 7,3% адпаведна.

### Эфект для спажыўцоў

Спажыўцы могуць адчуць на сваіх кашальках станоўчы эфект ад прыходу СГА. «Цэны на малочную прадукцыю ў Расіі вельмі высокія праз пратэкцыянізм, — прыводзіць прыклад Сяргей Чалы. — А цяпер, калі рынак адкрыецца і на яго зможа прыйсці Новая Зеландыя, цэны пойдуць уніз». Падобная сітуацыя здарыцца і на беларускім рынку, толькі ў іншых сегментах. Віны, мяса, сыры — на ўсе гэтыя прадукты, на думку Чалага, у Беларусі завышаныя цэны. Яны могуць знешыцца пасля далучэння Расіі да свабоднага рынку.

### Ні ў, ні па-за

У завіслым стане Беларусь будзе знаходзіцца да таго часу, пакуль сама не ўступіць у СГА. У Міністэрстве замежных спраў на гэты конт абмяжоўваюцца дзяжурнымі адказамі накшталт «перамовы працягваюцца», а матэрыялы па гэтай тэме ледзь не засакрэчаныя. Па словах Сяргея Чалага, працэс перамоваў, які доўга стаяў на месцы, нядаўна быў размарожаны. Гэтаму паспрыяла і Расія. Раней меркавалася, што тройка краінаў Мытнага саюза будзе ўступаць у СГА адным блокам ці паасобку, але адначасова. Аднак Беларусь, у сілу як эканамічных, так і палітычных прычын, з графіка выбілася.

## Патэнцыйная праблема — змяншэнне экспарту ў Расію і рост імпарту праз Расію ў Беларусь

На колькі расцягнецца пераходны перыяд для нашай краіны, невядома. Каб адпавядаць умовам уступлення ў сусветную арганізацыю, давядзецца істотна змяніць заканадаўства, абмежаваць дзяржаўную падтрымку сельскай гаспадаркі і прамысловасці. А гэта можа паставіць пад пагрозу існаванне беларускай «мадэлі».

**Ягор Марціновіч**

**Як зменяцца расійскія мыты**

Сярэднія мыты на прамтавары зменшацца з 9,5% да 7,3%, на сельгаспрадукты — з 13,2% да 10,8% .

# У Беларусі сабралі першыя легкавікі Geely




**Кітайскія аўтамабілі пакуль што робяць на заводзе БАТЭ.**

На базе барысаўскага завода БАТЭ сабраныя першыя два кітайскія легкавікі Geely. Пакуль што гэта адкрутковая зборка. Як заявіў віцэ-прэм’ер Уладзімір Сямашка, цяпер яны праходзяць выпрабаванні, каб атрымаць адпаведную сертыфікацыю. Гэта зойме прыкладна 3 месяцы.

У наступным годзе на вытворчых плошчах БАТЭ плануецца сабраць прыкладна 6000 такіх легкавікоў. У далейшым мяркуецца стварыць асобны завод для іх зборкі. Ён мае быць пабудаваны на тэрыторыі Беларуска-кітайскага індустрыяльнага парку.

## Аўтамабіль Geely FC кітайскай зборкі ў базавай камплектацыі каштуе $14 тысяч

Раней у Беларусі спрабавалі наладзіць зборку «Фордаў» і «Самандаў», але нічога з таго не выйшла.

Зборцы кітайскіх аўтамабіляў катэгарычна пярэчыць Расія, якая хацела б захаваць Беларусь у якасці рынку сваіх легкавікоў, і таму апелюе да ранейшых заключаных пагадненняў. Аднак калі ў нашай краіне будзе адбывацца больш за 50% вытворчага цыклу, тавар будзе лічыцца зробленым у Беларусі.

**СГ, ЯМ**

# Беларусь аддае МАЗ у холдынг з КамАЗам

**Дабіўшыся пераацэнкі кампаній на сваю карысць.**

Беларусь і Расія дамовіліся аб фармаванні холдынга на базе МАЗа і КамАЗа. Гэта вынікае з даклада прэм’ер-міністра Міхаіла Мясніковіча, прадстаўленага Аляксандру Лукашэнку. «Гэтая інтэграцыя для беларускага боку выгадная. Гэта будзе аб’ яднаны рынак аўтамабіляў, на якім сёння мы прадаём 77% прадукцыі МАЗа», — заявіў Мясніковіч.

Асаблівы інтарэс выклікае заяўлены кошт актываў МАЗа. У лістападзе 2011 года аўдытарская кампанія Ernst&Young ацаніла беларускае прадпрыемства ў $800 мільёнаў. Кошт КАМАЗа тым часам складаў $1,8-2 мільярды. Такія лічбы выклікалі абурэнне беларускага ўрада, які праз паўгода замовіў пераацэнку. Новыя падлікі парадавалі — МАЗ падаражэў да $1,1 мільярда, а КАМАЗ, наадварот, быў уцэнены да $1,6 мільярда.

Такім чынам, у склад новаўтворанага холдынга «Расбелаўта» расійцы аддадуць 49,9% акцый свайго аўтагіганта, а беларусы — 75% мінус адна акцыя свайго. Рэшта, 25% акцый МАЗа, застанецца ва ўласнасці беларускай дзяржавы.

**ЯМ**

## Сціcла

### Заробкі вырастуць двойчы

З 1 жніўня і ў кастрычніку вырасце тарыфная стаўка першага разраду. «Задача аб выхадзе на 4 мільёны сярэдняга заробку няпростая, але будзем імкнуцца да таго, каб гэта было выканана», — паабяцаў прэм’ер-міністр Міхаіл Мясніковіч.

### Стоп венесуэльскай нафце

З чэрвеня Беларусь спыніла імпарт нафты з Венесуэлы. Дагэтуль штомесяц у краіну прыходзіла па 160 тысяч тон венесуэльскай нафты. Паводле словаў віцэ-прэм’ера Уладзіміра Сямашкі, «гэта была сяброўская дапамога, і ў пэўны момант гэтыя пастаўкі былі выгадныя».

### Зарплата дарасла да $435

Паводле афіцыйнай статыстыкі, налічаны сярэдні заробак у Беларусі ў маі склаў 3 560 тысяч рублёў. Гэта $435 у эквіваленце. За месяц ён вырас на 306 тысяч рублёў (на 9,4%). А вось у Мінску заробак дарос да $550.

### Цукар падаражэў на 7%

Ад 24 чэрвеня ён каштуе 8000 рублёў за кілаграм. Раней раздробная цана на расфасаваны цукар складала 7500 рублёў.

### Беларусь хоча купіць «Растсельмаш»

Урад Беларусі прапануе стварыць адзінае прадпрыемства на базе растоўскага «Растсельмаша» і «Гомсельмаша». Альтэрнатыўны варыянт — беларусы гатовыя выкупіць акцыі растоўскай кампаніі, якая выпускае камбайны, па рынкавым кошце.

**ЯМ**

# «У год у Беларусі адстрэльваюць 10 тысяч бакланаў»

Чаму **знішчэнне птушкі** стала неабходнасцю?

Лёс скалечаных птушак з Чашніцкага раёна, якім невядомыя адрэзалі дзюбы, працягвае заставацца «гарачай тэмай». У канцы мінулага тыдня з'явілася інфармацыя, што бакланаў усыпілі. Усяго, па дадзеных Міністэрства прыродных рэсурсаў, давялося забіць 26 птушанятаў. Зараз вядзецца следства, аднак ужо вядома, што правапарушальнікаў чакае адміністрацыйная адказнасць па артыкуле «Жорсткае абыходжанне з жывёламі». Гэты пункт кодэкса прадугледжвае штраф у памеры ад 10 да 30 базавых велічыняў (ад 1 да 3 мільёнаў рублёў).

У СМІ прайшла інфармацыя, што падазраваны ўжо затрыманы, аднак ні ў Следчым камітэце, ні ў РУУС Чашніцкага раёна пацвердзіць гэтыя звесткі не змаглі.

«Зараз вядзецца праверка, нікога пакуль не затрымлівалі, — паведаміў «НН» кіраўнік Чашніцкага РАУС Міхаіл Дзядзічкін. — Пасля справа мусіць быць перададзена ў Следчы камітэт».

Тым часам у інтэрнэце ідзе актыўнае абмеркаванне праблемы бакланаў, якіх у любым разе штогод адстрэльваюць у вялікай колькасці. Каб даведацца, чаму гэтая птушка стала першым ворагам рыбгасаў Беларусі, «НН» звярнулася да навуковага супрацоўніка лабараторыі арніталогіі НПЦ па біярэсурсах Акадэміі навук Ірыны Самусенкі.

«Бакланы насамрэч вельмі шкодзяць рыбгасам, — расказвае спадарыня Самусенка. — І як бы сумна гэта ні было, адстрэльваюць іх праз неабходнасць. Тым больш, што ў канцы сезона да беларускіх бакланаў далучаюцца яшчэ і птушкі з краінаў Балтыі, Швецыі і Фінляндыі, якіх нашы рыбгасы вельмі прывабліваюць. Летась давялося адстрэліць каля 10 тысяч птушак».

У пачатку XX ст. бакланы амаль зніклі — засталася невялікая колькасць калоній на берагах Брытаніі і Галандыі, аднак у 1950-х колькасць птушак пачала імкліва аднаўляцца, а ў 1988 была зафіксавана першая вялікая калонія бакланаў у Беларусі. Тады і выявілася, што яны — праблема для рыбгасаў усёй Еўропы.

«Рэч у тым, што баклан, у адрозненне ад іншых птушак, харчуецца выключна рыбай. І таму птушкі збіраюцца ля рыбгасаў у вялікай колькасці — мы налічылі тры з паловай тысячы птушак за дзень у адным рыбгасе. Адстрэльваюць іх не толькі ў Беларусі — за зіму 2008—2009 у Германіі адстрэлілі 27 тысяч бакланаў».

Рыбгасы імкнуцца змагацца з бакланамі «несмяротнымі» метадамі, аднак тыя не маюць эфекту.

«Усталёўваюцца газавыя гарматы, нейкія пудзілы ды іншыя прыстасаванні, якія мусяць адпалохаць бакланаў, — расказвае спн.Самусенка. — Аднак з той жа самай праблемай сутыкнуліся і на Захадзе: такія меры бяспекі стрымліваюць бакланаў у лепшым выпадку некалькі дзён, у горшым — пару гадзінаў. Гэтая птушка вельмі хутка прыстасоўваецца да любых умоваў. Тым не менш, нават у рыбгасах людзі шакаваныя падзеямі пад Новалукомлем».

**Юрась Ускоў**



У 2007 у заказніку «Сярэдняя Прыпяць» невядомыя знішчылі заразом каля 600 бакланаў. Яны спілавалі дрэвы з гнёздамі і забілі дарослых птушак разам з птушанятамі.

**За 30 гадоў бакланы пераўтварыліся са «зніклых» птушак у сапраўдных ворагаў рыбгасаў.**

# За брудную ваду з крана можна падаваць у суд

У Заслаўі застаецца нявырашанай **праблема вады**.

Летась «НН» пісала пра сітуацыю з вадой у Заслаўі (№39). На жаль, праблема не знікла. Напор вады малы, першыя 5 хвілін з крана цячэ брудная жыжа, піша наша чытачка Галіна і далучае фота. Яна пераехала ў Заслаўе з Мінска каля года таму. Чаму яна мусіць плаціць за непрыдатную для ўжывання ваду, якую рэгулярна даводзіцца зліваць?

«Самае сумнае, што, для з мясцовых — гэта нармальная з'ява. Магчыма, нехта скажа, што я распешчаная жанчына са сталіцы, але жыць у XXI стагоддзі ў нармальных умовах — гэта павінна быць нормай!» — піша жыхарка Заслаўя.

### Праблема ў састарэлых камунікацыях

У Заслаўскай ЖКГ карэспандэнту «НН» расказалі, што вада ў кватэры жыхароў горада падаецца з артэзіянскай свідравіны. Яна ідзе па цэнтральнай магістралі, закладзенай дзясяткі гадоў таму. Акрамя таго, у саміх дамах водаправоды ў многіх выпадках таксама патрабуюць рамонту і прачысткі.

Супрацоўнік ЖКГ Сяргей Маісеенка кажа, што ягоная арганізацыя не здымае з сябе ўсёй адказнасці, але і ЖЭУ маглі б таксама парупіцца пра стан жыллёвага фонду.

### Бяда ўсёй краіны

У Беларускім таварыстве абароны спажыўцоў расказалі, што даволі часта сутыкаюцца з падобнымі скаргамі.

Як патлумачылі ў таварыстве, у выпадку частай падачы няякаснай вады спажыўцы маюць права па кампенсацыю. Але перш за ўсё неабходна звярнуцца ў занальны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі. Калі праверка выявіць, што вада насамрэч не адпавядае нормам, з вынікамі экспертызы можна ісці ў суд. Зрэшты, у таварыстве падкрэслілі, што часам сам факт праверкі з цэнтра гігіены вырашае праблему.

**Сямён Печанко**



# Прадаеш чарніцы — ад падатку вызваляешся

Ягады пачалі **прадаваць і здаваць** нарыхтоўшчыкам.

Згодна з беларускім заканадаўствам, вызваляюцца ад падаходнага падатку з фізічных асобаў прыбыткі плацельшчыкаў, якія атрымліваюць ад збору і здачы лекавых раслінаў, дзікарослых ягадаў, арэхаў, грыбоў.

Таксама вызваляюцца ад адзінага падатку індывідуальныя прадпрымальнікі і іншыя фізічныя асобы, якія рэалізуюць лекавыя расліны, ягады, грыбы, арэхі...

Нагадаем, згодна з Лясным кодэксам, грамадзяне маюць права свабодна знаходзіцца на тэрыторыі ляснога фонду і бясплатна збіраць для задавальнення ўласных патрэбаў дзікарослыя плады, ягады, арэхі, грыбы, калі іншае не прадугледжана заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь.

**Кастусь Матушыч**





### У Мінску знікла дзяўчына

Ксенія Маркевіч выйшла з дому 17 чэрвеня і дагэтуль не вярнулася. Ксенія жыве на вуліцы Гая, 17. На выгляд 20—25 гадоў, рост 170—172, звычайнага целаскладу. Мае мадэльны выгляд. Дзяўчына можа знаходзіцца ў стане псіхалагічнага стрэсу. Была апранута ў блакітныя джынсы, чорную скураную куртку.

Бацькі Ксеніі просяць звязвацца з імі па тэлефонах (172) 177-454 (хатні), (296) 177-455 (velcom), (296) 177-454 (velcom).

# Два вяселлі ў шыкоўным Robinson Club кепска скончыліся

Госці трапілі ў інфекцыёнку з падазрэннем на сальманэлёз.


ROBINS.BY

Госці з двух вяселляў, якія праходзілі ў рэстаранным комплексе «Рабінзон клуб» 16—17 чэрвеня, шпіталізаваны ў інфекцыйную бальніцу.

Як расказаў «Нашай Ніве» адзін з вясельнікаў, праблемы са страўнікам пачаліся ў большасці гасцей. Сам ён ацалеў, як ён лічыць, таму, што ад пачатку ўжываў моцныя алкагольныя напоі. А вось жанчыны, якія пілі віны ці не пілі зусім, трапілі ў бальніцу з сімптомамі атручвання.

У Гарадской клінічнай інфекцыйнай бальніцы пацвердзілі, што 17 чэрвеня да іх сталі паступаць людзі з ванітамі, тэмпературай і паносам, якія расказалі, што напярэдадні былі ў рэстаране Robinson Club. Да доктаркі прыёмнага аддзялення Святланы Малец паступілі тры чалавекі.

«У 16.50 на хуткай прыехала дзяўчына, потым паступіла яе мама. Пазней паступіла яшчэ адна дзяўчынка. Стан пацыентаў быў сярэдняй цяжкасці. Але сімптомы атручвання ясныя», — сказала яна. Людзі, па словах Святланы Малец, паступалі яшчэ і ў мінулыя панядзелак і аўторак. Удакладніць колькасць чалавек не ўдалося. Са словаў вясельніка, прынамсі 9 чалавек з ягонага свята цяпер у бальніцы. Ён кажа, што тое самае — ва ўдзельнікаў іншай гасціны, якая адбывалася ў «Рабінзон клубе» паралельна.

Разам з тым адміністратар рэстарана Robinson Club Раман паведаміў, што нібыта да іх са скаргамі ніхто не звяртаўся. Але Мінскі занальны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі ўсё-ткі распачаў пазапланавую праверку рэстарана. На гэтым тыдні павінны стаць вядомымі яе вынікі. Пакуль жа ў цэнтры пра прычыну захворвання людзей нічога пэўнага сказаць не могуць.

**Сальманэлёз** — вострае інфекцыйнае зааантрапознае захворванне, якое выклікаецца сальманэламі (род бактэрый) і характарызуецца развіццём інтаксікацыі (уздзеянне на арганізм шкодных рэчываў) і паражэннем страўнікава-кішэчнага тракту. Асноўная крыніца інфекцыі — харчовыя прадукты, як правіла жывёльнага паходжання (мяса, малако, яйкі, асабліва качкі і гусі).

**«Рабінзон-клуб»** — шыкоўны гатэльна-забаўляльны комплекс на беразе Мінскага мора. Ён збудаваны ўласнікам «Кароны» Паўлам Тапузідзісам, адным з набліжаных да Лукашэнкі бізнэсоўцаў. Клуб аб'ядноўвае гатэль, два рэстараны, бар, парк, дзіцячую і вертылётную пляцоўкі, станцыю пракату, SPA-цэнтр. Знаходзіцца за 7 км ад МКАД.

**Мікола Бугай, Кастусь Матушыч**

# Дактары ідуць на неапраўданую рызыку

І не баяцца трапіць за краты.

У маі суд Навабеліцкага раёна Гомеля прызнаў 77-гадовую доктарку-неўролага гарадской паліклінікі вінаватай у атрыманні хабару. За два гады доктарка незаконна атрымала 1 мільён 235 тысяч рублёў. У матэрыялах справы 31 эпізод — яна афармляла лісты часовай непрацаздольнасці за хабар. Лекар пакараная 3 гадамі пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці з адтэрміноўкай прысуду на 2 гады.

Мы звярнуліся да доктаркі-гінеколага ў паліклініцы аднаго з раённых цэнтраў Беларусі. Марына пагадзілася расказаць, як і што яна атрымлівае ад удзячных пацыентаў.

**«Наша Ніва»: Часта пацыенты дзякуюць шакаладам альбо каньяком?**

**Марына:** Прыкладна кожны трэці прыносіць нешта падобнае. За тыдзень часам атрымліваецца дзесятак такіх прэзентаў. Праца ў мяне спецыфічная — займаюся жанчынамі. Таму на кветкі спадзявацца не даводзіцца. Бывае, што і мужчыны заходзяць, каб «аддзячыць» за жонку.

**«НН»: Ад чаго залежыць тое, што нясуць?**

**М:** Людзі самі вырашаюць. Кіруюцца, напэўна, цяжкасцю іх захворвання. Мне як жанчыне часцей прыносяць шакалад, цукеркі, садавіну, каву, віно. Каньяк скрынямі хіба толькі доктару Купітману з серыяла «Інтэрны» прыносяць. Часам дораць нейкія рэчы — набор парфумы. Але ў асяродку медыкаў не прынята абмяркоўваць падарункі.

**«НН»: А грошы прапаноўваюць?**

**М:** Не, грошай ні разу не прапаноўвалі. Ды і за што? Усе падарункі — гэта ж знак увагі, а не разлік за нейкую працу. Магчыма, я не так шмат працую, каб быць у курсе ўсяго. А выпіскай «ліпавых» даведак я не займаюся.

**«НН»: Такі знак увагі Крымінальным кодэксам трактуецца як «атрыманне незаконнай узнагароды». Як Вы гэта ўспрымаеце?**



**М:** Я не лічу гэта чымсьці дрэнным. Калі жанчыне дораць кветкі — гэта нармальна. Чаму я павінна адмаўляцца ад шакаладу? Безумоўна, я заўжды прапаную пацыенту забраць назад тое, што ён прынёс. Але не спрабую з імі сварыцца: яны не разумеюць, што такім чынам могуць доктара падставіць. Кажуць: «Ніхто ж не даведаецца». А калі чалавек мне дадому прынясе бутэльку віна, гэта таксама незаконна? У пачатку маёй практыкі быў выпадак, калі я адмовілася браць цукеркі. Дык жанчына мяне дачакалася, калі я сыходзіла з працы. Як правіла, людзі пакідаюць свой пакецік пасля агляду. Але тут хутчэй «закід» на наступны раз.

**«НН»: Калі вучыліся ў медыцынскім універсітэце, Вас папярэджвалі неяк пра хабар, пра крымінальную адказнасць?**

**М:** Так, былі размовы. Але тады, як зрэшты і цяпер, гэта не ўспрымаецца як нейкае злачынства.

**«НН»: Не баіцеся, што могуць і пасадзіць?**

**М:** Не задумваюся пра гэта.

**КМ**

**Што кажа закон**

Згодна з Крымінальным кодэксам, незаконнай узнагародай лічыцца атрыманне маёмасці альбо іншай выгады маёмаснага характару работнікам дзяржаўнага органа альбо іншай дзяржустановы за выкананую працу, якая ўваходзіць у кола яго службовых абавязкаў, акрамя прадугледжанай заканадаўствам РБ аплаты (арт. 433). Караецца ад пазбаўлення права займаць пэўныя пасады і займацца пэўнай дзейнасцю да 3 гадоў пазбаўлення свабоды.

# «Госці з суседняй краіны не заўсёды выконваюць правілы»

У Беларусі павялічылася колькасць аварый з удзелам расейцаў.

ДАІ Беларусі адзначае ўсплёск аварый з удзелам аўто з Расіі, у тым ліку з тымі, што транзітам накіроўваюцца на адпачынак у краіны Еўропы.

Так, 22 чэрвеня адбыліся дзве аварыі з цяжкімі наступствамі з удзелам грамадзян Расіі. На 75-м кіламетры дарогі Брэст—Мінск — мяжа РФ у аварыю трапіў аўтамабіль Citroen Jumpy сям'і з Вялікага Ноўгарада. Кіроўца заснуў за рулём, у выніку легкавік выехаў за межы дарогі і перакуліўся. Трое дзяцей і іх бацькі атрымалі траўмы.


AUTO.ONLINER.BY

У Гомелі кіроўца Lada Priora з расійскімі нумарамі пратараніў «Газель» хуткай дапамогі. Вадзіцель загінуў на месцы (на фота).

10 чэрвеня на трасе М1 27-гадовая дзяўчына на Hyundai не справілася з кіраваннем і сутыкнулася з грузавым Mercedes. Загінуў пасажыр легкавіка.

У Наваполацку 15 чэрвеня ВАЗ з расійскім нумарамі вылецеў на ходнікі і ўрэзаўся ў лаўку на прыпынку грамадскага транспарту. У аварыі ніхто не пацярпеў.

Яшчэ ў маі беларуская ДАІ звярнулася да расійскіх аўтааматараў з заклікам: «адчувайце сябе як дома, але не забывайце, што вы ў гасцях». Нагодай стала ДТЗ у Веткаўскім раёне, у якім загінуў 32-гадовы грамадзянін Расіі.

«Госці з суседняй дзяржавы не заўсёды выконваюць пэўныя правілы і патрабаванні, што прад'яўляюцца да іх як да ўдзельнікаў дарожнага руху на беларускіх дарогах. Тым самым ствараюць немалыя праблемы кіроўцам, пешаходам і праваахоўным органам», — гаварылася ў тым звароце. Як бачым, праблема застаецца актуальнай.

**Сямён Печанко**

## Сціла

**У аквапарку ў Пружанах патануў 9-гадовы хлопчык**

Трагедыя здарылася 20 чэрвеня. Малы адпачываў у школьным лагеры і разам з іншымі дзецьмі прыйшоў у басейн на сеанс. Цела хлопчыка заўважылі выхавацелі, што былі з групай. Кірыл вучыўся ў 3 класе СШ №4 у Пружанах.

**Гарэў «Эль-Памідора»**

20 чэрвеня гарэла кавярня на вуліцы Чырвонай у сталіцы. Адміністрацыя паспела вывесці 50 наведвальнікаў яшчэ да прыбыцця пажарных. Пажар пачаўся на кухні.

**Матч «Партызана» і «Тарпеда» скончыўся бойкай**

У матчы чэмпіянату Мінска паміж «Партызанам» і «Тарпеда» (1:0) пабіліся гульцы і трэнеры камандаў. Прычынай стаў фол «тарпедаўца», у выніку якога ў гульца «Партызана» было рассечана брыво. Канфлікт згасілі з дапамогай міліцыі.

**ЯМ, КМ**

# 19-гадовы студэнт выпраўляецца ў кругасветнае падарожжа

З сабой у Яўгена Ціханава **толькі 500 даляраў**.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Студэнт другога курса кулінарнага тэхнікума Яўген Ціханаў разам з сябрам збіраецца аб'ехаць Зямлю. Падарожжа зойме два-тры гады, кажа ён.

**«Наша Ніва»: Вы ўжо склалі маршрут вандроўкі?**

**Яўген Ціханаў:** Так, спачатку мы рушым на Усход — праз Украіну, Грузію, Арменію і Азербайджан. На кожную з гэтых краінаў мы плануем патраціць два-тры тыдні. Далей у планах — Іран (там плануем заставацца месяц), адтуль, у залежнасці ад візаў, Туркменістан альбо Індыя. Наша галоўная мэта ў гэтым рэгіёне — трапіць у Тыбет, а адтуль у Кітай. Пасля Лаос — у бок да Аўстраліі, дзе мы плануем затрымацца надоўга, пасля чаго накіруемся ў Паўднёвую Амерыку і дабяромся да Мексікі. У ЗША і Канаду мы не паедзем — гэта такія краіны, куды заўжды можна без праблем вярнуцца. Калі ўсё атрымаецца, то трапім на Заходняе ўзбярэжжа Афрыкі, адтуль — назад праз Еўропу.

**«НН»: Якім чынам плануеце падарожнічаць?**

**ЯЦ:** Аўтаспынам, нас едзе два чалавекі. Мы разумеем, што гэта будзе цяжка і доўга.

**«НН»: А колькі грошай возьмеце ў дарогу?**

**ЯЦ:** Каля 500 даляраў. На Усходзе можна жыць амаль бясплатна. А вось калі трапім у Аўстралію і Новую Зеландыю — будзем уладкоўвацца на працу на плантацыях, там увесь год збіраюць ураджай, праца ёсць.

**«НН»: Аднак паміж кантынентамі аўтаспынам не праедзеш…**

**ЯЦ:** Да Аўстраліі можна без праблем дабрацца, галоўная праблема для нас — Ціхі акіян. Мы спадзяёмся, што ў Аўстраліі атрымаецца зарабіць на квіткі на самалёт да Паўднёвай Амерыкі. Заробкі ў Аўстраліі добрыя.

**«НН»: Вы едзеце ўдвух з сябрам?**

**ЯЦ:** Так, у яго вялікі досвед падарожжа спынам — летась ён з'ездзіў у Шанхай. У мяне няма пакуль увогуле такога досведу. Тым не менш, два месяцы таму я сказаў, што еду разам з ім. Мяне мала што трымае. Вучоба... Вучыцца можна заўжды.

**Гутарыў Юрась Ускоў**





**Фотафакт**

**Вось у такім арыгінальным касцюме з'явіўся на ўручэнне дыплома адзін з выпускнікоў Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта. Юра Вежлівы пазычыў сукенку-зебру ў сяброўкі. А іракез ён сабе зрабіў толькі на час адпачынку. Працуе Юра ў банку. Вось так стаў зоркай.**

## Пік сезона клубніц: цэны на Камароўцы

Гэты пах не зблытаеш — такі стаіць над рынкамі **толькі ў чэрвені**.



Свежыя беларускія ягады прывозяць у сталіцу пераважна з Берасцейскай вобласці: Лунінец, Іванава, Івацэвічы, Маларыта.

Горшыя ягады каштуюць 15 тысяч рублёў за кг. Лепшыя, свежыя можна набыць за 20 тысяч. Адборныя, вялізныя і сухія трускалкі цэняць 25—30 тысяч рублёў.

**Сяргей Гезгала**

**Зачапіла**

## «Беларусь-2» рэкламуе мультфільмы з дапамогай крымінальнага жаргону

**Тэлеканал пераплюнуў** расійскіх пракатчыкаў.

«Давядзецца мальку адказваць за базар», — гучыць з тэлеэкрана. Гэта анонс мультфільма «Акулавая гісторыя». У пракаце назва мультфільма мае крымінальнае адценне — «Падводная братва».

Нядаўна на тым жа канале ішла «Лясная братва», якая ў арыгінале называецца «За агароджай» («Over the Hedge»).

Тэлеканал дэманструе версіі мультфільмаў, дубляваныя ў Расеі, і, хутчэй за ўсё, не мае права змяніць назву. Аднак узнікае пытанне: нашто яшчэ і акцэнтаваць крыміналыпчыну?

**Сямён Печанко**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Мёртвым баліць

### Вызваленне

На пазамінулым тыдні «Белсат» паказаў дакументальны фільм Віктара Аслюка «Зямля». Там ёсць такі эпізод: падлетак, амаль хлопчык, асцярожна, як гэта робяць археолагі, вызваляе са спрэсаванай зямлі косці і костачкі загінулага жаўнера. Жаўнер нібыта ўціснуты ў сцяну колішняга акопа, хутчэй за ўсё, выбухам, мы бачым ягоны шкілет амаль цалкам, у позе, падобнай на позы жыхароў Пампеі, на якіх абрынуўся ўсім сваім смяротным цяжарам выбух Зямлі. З той, аднак, розніцай, што апошні дзень Пампеі пакінуў нашчадкам замест костачак пустку... Падлетак бярэ ў рукі чэрап, кладзе яго ў драўляную, з габляваных дошак, труну, прыстасоўвае да іншых костачак, каб жаўнер пачуваў сябе ў труне чалавекам. І міжволі гладзіць яго, хочацца сказаць, па галоўцы. Счышчае рэшткі зямлі, нібыта намагаецца супакоіць, суцішыць не пазбыты ад вайны боль...

Аслюк зняў фільм пра тое, як падлеткі добраахвотна дапамагаюць адшукваць непахаваных ад часоў Другой сусветнай вайны жаўнераў. Мы не ведаем, хто яны — тыя падлеткі, іх дарослыя кіраўнікі... Не ведаем, хто жаўнеры, аб прыналежнасці каторых да таго ці іншага войска сведчаць толькі рэшткі амуніцыі ды саржавелая зброя. Увогуле, у фільме, у якім амаль ніводнага слова, знешне нічога не адбываецца, акрамя вызвалення костачак ад цяжару зямлі.

Ці вызвалення Зямлі ад цяжару непахаваных костак...

### Немата

...1961, Кіеў, Дарніца, спякотны жнівень, насычаны дзяруча-жалезістым пахам пылу і ліцейкі з вагонабудаўнічага завода. Я ратуюся ад спякоты ў прахалоднай зале кінатэатра, дзе гляджу «Голы востраў» — нязвыклы для савецкага гледача японскі фільм, аб якім пасля Маскоўскага кінафэсту, дзе ён узяў Вялікі прыз, многа гаворкі. Хвіліна за хвілінай на экране дзеецца адно і тое ж — бацька, маці і два іхнія сыны, адзіныя жыхары маленькай выспы на моры, маўкліва, быццам нямыя, цягаюць угару, дзе сярод камянёў месціцца гарод, прэсную ваду... Аднойчы жанчына незнарок пралівае вядро вады, муж дае ёй аплявуху... Недзе праз паўгадзіны пачынаюць глухавата ляскаць сядзенні крэслаў, і я застаюся ў агромністай зале ці не адзін, дачакаўшыся моманту, калі раптоўна захворвае і памірае малодшы сын, і маці ў роспачы выплюхвае ваду на камяні... А потым зноў цягне ўгару поўныя вёдры...

## Ці вызвалення Зямлі ад цяжару непахаваных костак…

### Знаходка

...За месяц да Кіева я ў Полацку разам з сакурснікамі поркаюся ў глеі XI стагоддзя, уперамешку з гноем ды абгарэлым насеннем. Па адзін бок Сафія, па другі — анкалагічны дыспансер за драўляным плотам. Вось-вось плот абрынецца ў яму — дзе пасеўшы, дзе абапіраючыся на яго, хворыя на рак людзі ў паласатых піжамах і брудных халатах задуменна ўглядаюцца ў мінуўшчыну... Я цягну да Мітрафанава з гэтай мінуўшчыны нейкую рэч, падобна, качолку ці вясло. Аляксей Мітрафанаў, знакаміты археолаг, сядзіць, бы Саваоф, на ўзвышшы пад парасонам сярод лопуху ды дзядоўніку. Стрымліваючы дыханне, я з ганарлівасцю падношу да яго знаходку. Ён верціць яе ў руках і, ні слоўца не гаворачы, шпурляе ў лопух. Абражаны, бо ў будучыні бачу сябе археолагам, спускаюся ў раскоп і раптам сутыкаюся поглядамі са схуднелым, адны вочы на твары, чалавекам. Я ўглядаюся ў ягоныя вочы і не бачу ў іх анічога, акрамя балючай пустэчы... Раскоп чамусьці ўяўляецца Дантавым пеклам. І я не вытрымліваю, выбіраюся на паверхню, мяняюся з хлопцам, які круціць жалезнае кола падобнага на калодзежны журавель крана з падвешаным на тросе каўшом, і ўвесь астатні час цягаю і цягаю на паверхню зямлю...

* * *

...Я ведаю, чым «Зямля» Аслюка злучыла згаданыя ўспаміны — разуменнем таго, што чалавечае існаванне, па сутнасці, трымаецца толькі працай, здабыткі якой руйнуюцца непазбежнымі стратамі; разуменнем таго, што чалавек не хоча, але вымушаны падпарадкоўвацца гэтаму змрочнаму калаўроту; разуменнем таго, што чалавечае жыццё толькі тады будзе бясконцым, калі людзей злучыць адчуванне болю ад заўчаснасці смерці. Ці то ад выбуху Зямлі... Ці то ад выбуху бомбы... Ці то ад выбуху невылечнай хваробы...

Адчуванне таго, што мёртвым таксама баліць.

...Я памыліўся, убачыўшы ва ўціснутых у зямлю рэштках невядомага жаўнера падабенства рэшткам ахвяр Пампеі. Скурчыўшыся ад болю, ён у чаканні чалавечага пахавання прыняў позу яшчэ ненароджанага дзіцяці.

Не, нездарма ўсё ж Зямлю клічуць матухнай, мамай...

*kamerton_41@mail.ru*

# Павел Баранаў: **Беларускія каментатары мацнейшыя за расейскіх**

Журналіст збіраецца **каментаваць па-беларуску** гульні ўнутранага першынства і англійскай Прэм’ер-лігі.

Матчы сёлетняга «Еўра» на тэлеканале «Беларусь-2» абслугоўваюць пяць каментатараў: Баранаў, Дзмітрыеў, Навіцкі, Новікаў і Цвячкоўскі. Чытачы nn.by адзначалі, што найбольш ім падабаецца праца Сяргея Новікава і Паўла Баранава.

**«Наша Ніва»: Каментаваць «Еўра» лягчэй ці цяжэй, чым чэмпіянат Беларусі?**

**Павел Баранаў:** Ні лягчэй, ні цяжэй. Проста па-іншаму. Беларускае першынства мы каментуем са стадыёна. Гэта іншая энергетыка, адчуванне. Тут даводзіцца працаваць са студыі. У прынцыпе, гэта звыклая справа. Не так і важна, які ўзровень футбалістаў, высокі ці нізкі. Важная барацьба і жаданне спартсменаў перамагаць. Часам матч чэмпіянату Беларусі каментаваць цікавей, чым, скажам, чвэрцьфінал «Еўра» Іспанія — Францыя.

**«НН»: А магчымасці з Польшчы і Украіны працаваць не было?**

**ПБ:** Не да мяне пытанне. Напэўна, не было. Я дакладна не ведаю, але, можа, справа ў грошах, улічваючы, што яшчэ наперадзе Алімпіяда.

**«НН»: Многія незадаволеныя, што няма трансляцый па-беларуску. Вы ж нядаўна адпрацавалі на мове гульню БАТЭ і «Славіі». Значыць, можаце.**

**ПБ:** Гэта была мая першая гульня па-беларуску за сем гадоў. Мне падаецца, што «Еўра» ўсё ж не таго маштабу турнір, каб я працягваў там свае моўныя практыкаванні і эксперыменты. Трэба адпрацаваць па-беларуску сезон-другі, каб аднавіліся навыкі, лексіка ўспомнілася. Збіраюся і далей працаваць па-беларуску. Магчыма, не толькі чэмпіянат краіны, але і англійскую Прэм’ер-лігу.

**«НН»: Як Вам увогуле ўзровень беларускіх каментатараў?**

**ПБ:** Ён даволі высокі. На мой погляд, наш сярэдні ўзровень вышэйшы за сярэдні ўзровень у Расіі. Там ёсць каментатараў пяць, якія больш таленавіта выказваюць свае думкі, але далёка не ўсе.

**«НН»: Можна пачуць, што нашым каментатарам не хапае эмацыйнасці.**

**ПБ:** Каму хапае, каму — не. Скажыце, ну як эмацыйна каментаваць гульню Іспанія — Францыя, дзе нічога не адбываецца? Проста крычаць, заводзіцца — гэта было б неадэкватна. Часам эмацыйнасць абсалютна натуральная, як было ў мяне ў гульні «Манчэстэр Сіці» — КПР, але тады інакш нельга было. У таго ж Навіцкага ўсё добра з эмацыйнасцю, у іншых — таксама.

**«НН»: Як Вам увогуле гэтае «Еўра»?**

**ПБ:** Для футбалістаў, выглядае, гэта проста працяг сезона, а не свята. Важныя, адказныя гульні, але не больш за тое. Гэтае спаборніцтва не самае цікавае з тых, што я назіраў. Вельмі моцная Іспанія, канечне. Гэта дадае крыху суму, інтрыгі няма. Якасны, цікавы футбол у чвэрцьфінале паказалі Італія і Англія, моцныя духам каманды. Але ў прынцыпе вялікіх сюрпрызаў няма, ёсць толькі нюансы.

**«НН»: За каго самі заўзееце?**

**ПБ:** Каб моцна, то ні за каго. Цікавасць выклікае Германія, Італія. Іспанцы, паўтаруся, настолькі моцныя, што аж нецікава.

**«НН»: А каментатар можа выказваць свае сімпатыі падчас трансляцыі?**

**ПБ:** Канечне, можа. Ён такі самы чалавек, як і астатнія. Нават абавязаны. Каментатарства — гэта ж тая публіцыстыка, дзе чалавек выказвае свой суб’ектыўны погляд. Некаторыя думаюць, што так мы навязваем свае погляды, але гэта лухта. Проста вядзём гутарку з гледачамі ля экрана. З намі можна пагаджацца ці не, спрачацца. Адкрыта заўзець можна хіба падчас гульняў сваёй краіны.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**



**Фотафакт**




**Англійскія фанаты правялі ў Данецку флэш-моб з трунай. Гэтак яны адрэагавалі на словы былога капітана зборнай Англіі Сола Кэмпбэла, які засцерагаў англійскіх фанатаў, што з Украіны яны могуць вярнуцца нежывымі. Фанаты на сваім прыкладзе абверглі словы славутага абаронцы. Ва Украіне ім спадабалася.**

# Героі чвэрцьфіналаў

Іспанія — Партугалія, Германія — Італія. Гэтыя каманды вызначаць **пераможцу «Еўра»**.

**Крыштыяну Раналду (Партугалія)**

На пачатку гэтага першынства партугальцу жахліва не шанцавала. З тузін момантаў Крыштыяну растранжырыў у гульнях з Германіяй і Даніяй, а вось у сустрэчы з Галандыяй прарвала дублем. У матчы з Чэхіяй уладальніку «Залатога мяча-2008» зноў не шанцавала — дзве штангі. Праўда, за дзесяць хвілін да сканчэння гульні ён забіў галавой. «Гэта быў фантастычны матч», — сказаў пасля Крыштыяну.

**Месут Азіл (Германія)**

У сустрэчы з Грэцыяй Месут не забіў галоў, але аддаў дзве галявыя перадачы. Ніхто не чакаў ад гэтага матча фантана галоў, а ён атрымаўся самым выніковым на «Еўра» — 4:2. Многія пагаджаюцца, што толькі немцы могуць спыніць Іспанію. Азіл — сын турэцкіх мігрантаў. Многія з такіх хлопцаў робяць выбар на карысць гістарычнай радзімы, а вось Месут вырашыў гуляць за Германію.

**Хабі Алонса (Іспанія)**

Рудабароды апорнік «чырвонай фурыі» адзначыўся дублем у сустрэчы з Францыяй. Увогуле ж, «трохкаляровыя» не змаглі навязаць ніякай барацьбы чэмпіёнам свету і Еўропы. Іспанцы проста каталі мяч, б’ючы рэкорды ў колькасці дакладных перадач. Двойчы французская абарона такі прэсінг не вытрымлівала. Цікава, што Алонса правёў пяць матчаў у майцы непрызнанай зборнай краіны Баскаў.

**Джанлуіджы Буфон (Італія)**

Парадокс. Італьянцы і англічане не забілі ніводнага гола ў асноўны час, але выдалі самы цікавы чвэрцьфінал. Італьянцы атакавалі ўвесь матч, але гераічна на апошнім рубяжы змагаўся брамнік Джо Харт. У серыі пенальці ж мацнейшыя нервы былі ў Буфона, які адбіў удар Коўла. Харт атрымаў наглядны прыклад, чаму Буфон лічыцца наймацнейшым брамнікам у свеце, а ён пакуль — не.

**ЗП**



**Футбаліст жодзінскага «Тарпеда» Дзмітрый Рэкіш (справа) знешне нечым нагадвае Крыштыяну Раналду. Дарэчы, сустракаецца Рэкіш з дачкой Анжалікі Агурбаш — Дар’яй.**

**Сціссла**

**Справы за расізм**

УЕФА завёў дысцыплінарныя справы супраць фанатаў зборных Расіі і Іспаніі, якія адзначыліся расісцкімі ўчынкамі супраць чэха Гебрэ Селасіе і італьянца Марыа Балатэлі.

**Фурсенка падаў у адстаўку**

Прэзідэнт Расійскага футбольнага саюза Сяргей Фурсенка падаў у адстаўку пасля правалу зборнай Расіі на «Еўра». Адзначаецца, што наўрад ці ён гэта зрабіў па ўласнай волі.

**Рэкорд наведвальнасці**

Матчы гэтага «Еўра» ўжо наведалі 1,27 мільёна гледачоў. На мінулым у Швейцарыі і Аўстрыі было толькі 1,14 мільёна.

**ЗП**

**Рэкамендуем**

Беларусы Дзмітрый Ключко і Дзяніс Ганчарэнка пішуць пра свае ўражанні ад «Еўра» ў Варшаве і Львове.

**Чытайце на nn.by**

# Дырэктар «Арт-Сядзібы»: Хачу, каб пазванілі з Мінгарвыканкама

**Павел Белавус:** Моладзь не ідзе ў Дамы культуры, а ідзе да нас.


АЛЯКСАНДР TARANTINO ЖДАНОВІЧ.

«Арт-Сядзіба» — невялікае памяшканне на другім паверсе былога завода «Гарызонт» (вул. Куйбышава, 22) — з'явілася на карце культурных пляцовак Мінска паўгода таму. За гэты час тут прайшла вялікая колькасць, канцэртаў, выставаў, дыскусій.

І вось уласнікі вырашылі разарваць дамову аб арэндзе, хоць яна дзейнічала да лістапада. Арандадаўцы патлумачылі сваё рашэнне тым, што нібыта гаспадары «Арт-Сядзібы» парушаюць правілы пажарнай бяспекі і прапускны рэжым, а наведнікі ўстановы шмат кураць.

Дырэктар Сядзібы Павел Белавус нечага такога чакаў.

**Павел Белавус:** Да мяне даходзілі чуткі, менеджары «Гарызонту» казалі, што намі зацікавіліся кампетэнтныя органы і хутчэй за ўсё з намі дамову скасуюць. Хоць я шмат разоў размаўляў з кіраўніцтвам арандадаўцы, заўпэўніваў, што мы палітыкай не займаемся.

У нас з'явілася некалькі прапановаў наконт новага памяшкання. У ліпені будзем рабіць запланаваныя імпрэзы. І мы звяртаемся да нашых сяброў і наведвальнікаў, каб пісалі лісты ў нашу падтрымку.

**НБ: Спадар Белавус, як узнікла ідэя «Арт-Сядзібы» і, галоўнае, як яе ўдалося рэалізаваць?**

**ПБ:** Мы з сябрамі бачылі, што ў Мінску не хапае пляцовак, дзе людзі маглі б збірацца разам дзеля нейкіх цікавых мерапрыемстваў. Сталі падшукваць памяшканне. Завод «Гарызонт» перавёў частку сваёй вытворчасці ў іншае месца і стаў здаваць вольныя плошчы. Тут зрабілі розныя офісы, гандлёвы цэнтр «Гарызонта», хутка будзе танцавальная студыя. Была і «Арт-Сядзіба». За гэты час адбылося больш за 100 мерапрыемстваў. Тут перабывалі самыя выдатныя людзі. Тут правёў прэзентацыю фільма «Вышэй за неба» Курэйчык, тут паказваў свае карціны Марачкін, тут збіраліся грошы для дзіцячых дамоў пад песні Змітра Вайцюшкевіча і Паліны Рэспублікі, праводзіліся літаратурныя сустрэчы, выставы стрыт-арт-мастакоў. Бывае, што я ўпершыню чую нейкае прозвішча, а на яго прыходзіць па 70—80 чалавек.

**НБ: Хто гэтыя людзі?**

**ПБ:** Тут бывае самая розная публіка. Агульная аўдыторыя, зацікаўленая нашай дзейнасцю, цяпер каля 10 000 чалавек, пераважна моладзі. Зразумела, што на рэп-вечарыну прыхо-дзяць адны, на арт-кіно — іншыя, на сустрэчы фанатаў серыяла «Шэрлак» — свая аўдыторыя, а на моўнай сустрэчы — свая.

Зараз папулярныя «кватэрныя гастролі». Гэта калі музыка ці паэт можа за месяц аб'ехаць 20 гарадоў па Расіі, Украіне, Беларусі і выступае ў прыватных кватэрах. Часта бывае, што ў кватэрах людзі не змяшчаюцца — тады яны збіраліся ў нас.

Моладзь не ідзе ў Дамы культуры. Але яна прыходзіць да нас. Гэта дзякуючы таму, што мы спрабавалі максімальна спрасціць працэдуру правядзення імпрэз. Я неяк размаўляў з дырэктаркай Музея сучаснага мастацтва, пытаўся, як правесці ў іх імпрэзу. Дык у іх працэс можа заняць месяц: трэба напісаць заяўку, яе будуць разглядаць і зацвярджаць...

А мы працавалі значна прасцей: далі абвестку ў Фэйсбуку, і вось людзі сабраліся. Сёння пазванілі — заўтра будуць выступаць.

**НБ: Гэта называецца эфектыўны менеджмент. Як асабіста Вы прыйшлі да працы менеджара культуры? Чаму вырашылі займацца гэтым?**

**ПБ:** Я лідскі хлопец. Пасля школы вучыўся ва ўніверсітэце ў Берасці, па адукацыі — географ, спецыялізацыя — турыстычны менеджмент. У Берасці актыўна пачаў удзельнічаць у грамадскай дзейнасці, у «Дзедзічы». Я быў і арганізатарам многіх свят ва ўніверсітэце. Адзін дзень дэкан выклікае: «Паша, што ты робіш? Як бацька кажу, не лезь у палітыку!», а ў іншы дзень — запрашае на каньяк і дзякуе, што добра арганізавалі імпрэзу на факультэце. Па размеркаванні адправілі ў вёску, хоць я знайшоў быў сабе працу ў Берасці. Але па размеркаванні ў вёсцы прабыў 1 дзень. У Ляхавіцкім райвыканкаме мне сказалі: «Дзе мы цябе падзенем? У нас за год зачыніліся 2 школы». Таму я атрымаў адмацаванне. Патрапіў у Мінск, працаваў у турфірме. Адсюль мяне забралі ў войска. Гэта быў досыць цяжкі і не вельмі прыемны час, але цікавы досвед: размовы і дыскусіі з зампалітам, жыццё ў асяродку з праблемамі і думкамі прадстаўнікоў сярэднестатыстычнага грамадства, звычайных хлапцоў-рабацяг. Пасля войска вяртацца ў турбізнэс не хацелася: занадта многа там хлусні, недагаворак... І я вырашыў рабіць нешта сваё, тое, што было б мне цікава, цікава колу людзей, з якімі мы і стварылі «Арт-Сядзібу».

**НБ: Якія планы ў вас?**

**ПБ:** Акрамя бягучых праблем, маем амбітны план: стварыць анлайн-партал. Хачу, каб аднойчы патэлефанавалі з Мінскага гарвыканкама і сказалі: «Дзень добры, Павел, прачыталі вашае інтэрв'ю ў «Нашай Ніве», нам вельмі падабаецца ваша дзейнасць, мы знайшлі для вас у фондзе горада цікавы будынак, які будзе падыходзіць для «Арт-Сядзібы». Можа, калісьці адэкватныя, з еўрапейскім мысленнем людзі будуць сядзець на пасадах, а пакуль — гэта толькі фантазія.

Большасць крэатыўных мерапрыемстваў, якія рэалізуюцца ў Мінску, у краіне, праходзіць без дапамогі дзяржавы.

**НБ: Дык вы наперадзе дзяржавы?**

**ПБ:** Мы б хацелі супрацоўнічаць, але не ведаю, як гэта можа адбывацца. Не прытрымліваемся нейкай ідэалогіі, не дзелім творцаў на сваіх і чужых, не шукаем ворагаў і не складаем чорных спісаў. Галоўнае, каб было цікава.

**Гутарыла Наталка Бабіна**

**Як можна дапамагчы «Арт-Сядзібе»**

1. Калі ласка, напішыце ліст на адрас арандадаўцы:

220029, г. Мінск, вул. Чырвоная, 7, к. 4, дырэктару ЗАТ «Гарызонт — Белінвест — Дэвелапер» Г.П. Азараву.

Тэкст наступны:

Я, *імя і прозвішча*, звяртаюся да Вас з просьбаю не скасоўваць дамову з ІАУ «Амарока» (Арт-Сядзіба), бо «Арт-Сядзіба» — гэта ... *(ваш тэкст, чаму «Арт-Сядзібу» не трэба зачыняць)*.

2. Калі вы ведаеце ў цэнтры Мінска альбо непадалёк ад цэнтра месца альбо памяшканне, якое патэнцыйна ў будучым мы маглі б арандаваць для ўзнаўлення дзейнасці «Арт-Сядзібы» альбо самі з'яўляецеся ўладальнікамі памяшкання ці ведаеце такіх, то, калі ласка, пішыце на e-mail: artsiadziba@gmail.com.

# 7D-кіно ў Мінску

**Патрабаванні для гульцоў** — быць цвярозымі і важыць не больш за 100 кг.

Да Беларусі дабраліся 7D-кінатэатры. Ужо цяпер навінку пад назвай «Крутыя стваы» могуць паспрабаваць на сабе жыхары Мінска і Гродна. Назваць гэты від адпачынку словам «кіно» складана, хутчэй — атракцыён. Зрэшты, і налічыць сем вымярэнняў таксама цяжка.

Стэрэаакуляры даюць тры вымярэнні, рухомыя крэслы — чацвёртае, пырскі вады і мыльныя бурбалкі — пятае, інтэрактыўны ўдзел героя — шостае. Дзе ж тады сёмае, задумваецца мала хто. Тым больш у Турцыі ўжо прапануецца 9D-кіно...

Пакуль што ў краіне працуюць толькі дзве кабінкі з прыгодамі. Першая — каля супермаркета «Максімус» ў мінскім мікараёне Сухарава, другую трэба шукаць у гіпермаркеце «Алмі» ў Гродна.

На дзвярах рознакаляровай кабінкі вісяць маніторы, на якім транслюецца ўсё, што адбываецца ўнутры. Перад тым, як паспрабаваць сябе, можна паглядзець на іншых удзельнікаў інтэрактыўнай гульні. Карціна выглядае камічнай: на цацачных конях, якія ўвесь час разгойдваюцца ўперад-назад, сядзяць «героі» і страляюць з пісталетаў у пустэчу.

Паўтарыць іх прыгоды каштуе 25 тысяч рублёў. Трэба насунуць на вочы стэрэаакуляры і пасля на працягу ўсёй гульні абстрэльваць з пісталета ўсё, што варушыцца на экране — ворагаў, дрэвы, кактусы. У тое, што не варушыцца, — скрыні, куфры, — страляць можна таксама. Колькасць куляў неабмежаваная. Падрыхтуйцеся, што ад няспыннага націскання на курок могуць забалець пальцы.

Каб удзельнікі гульні не засумавалі, іх спачатку абдаюць пырскамі вады, пасля — мыльнымі бурбалкамі, а пры канцы фільма ад дзвярэй пускаецца нейкі дым. Можа, ён і дае сёмае вымярэнне?

Інструктары расказваюць, што большасць удзельнікаў прыходзяць вялікімі шумнымі кампаніямі і разыгрываюць першынство паміж сабой. Дарэчы, у кабінцы змяшчаюцца крэслы для чатырох удзельнікаў.

**Ягор Марціновіч**

# «Выбухоўка» ў цэнтры горада

У Мінску з'явіцца **рок-кавярня**.

Рок-кавярня «TNT» размесціцца на вуліцы Рэвалюцыйнай, у будынку, што з'яўляецца гісторыка-культурнай каштоўнасцю. Назву стваральнікі пазычылі ў аўстралійскіх дзядуляў з AC/DC (так называецца адна з песень знакамітых рокераў). А яшчэ TNT можна расшыфраваць як трынітраталуол, ці траціл, «выбухоўка» ў цэнтры горада.

Ідэя не новая. Першая ўстанова падобнага кшталту — Hard Rock Cafe — з'явілася ў Лондане на пачатку 1970-х. Цяпер гэта сетка налічвае 150 рэстаранаў у 53 краінах свету.

Аляксей Кароль, адзін з супрацоўнікаў, кажа, што «TNT» не будзе не падобнай да іншых рок-кавярняў. Імя яе гаспадара карэспандэнту «НН» не паведамілі, спаслаўшыся на камерцыйную таямніцу. Адзначылі толькі, што гэта заможны беларус, для якога рэстарацыі — «далёка не асноўны від прыбытку».

Афармляць кавярню дапамагаў знакаміты дызайнер Уладзімір Цэслер. Падлога выкладзеная старымі вінілавымі пласцінкамі, на сценах — гітары і постары рок-легендаў. Аграменныя плазменныя тэлевізары будуць круціць канцэрты тых самых гуртоў.

А вось футбол вы тут не паглядзіце. «На першапачатковым этапе не хацелася б уключаць спартыўныя трансляцыі. Гэта рок-установа, і тут павінны ісці музычныя перадачы», — кажа Яўген, іншы супрацоўнік.

Меню таксама «канцэптуальнае». Пераважаюць стравы амерыканскай кухні: фаст-фуд, грыль-меню, бурытас. А як жа, «рок — ён адтуль». Апроч амерыканскай, у меню і афармленні страваў будзе прысутнічаць «саўдэпаўская» тэматыка. Як настальгія па часах, калі рок быў забаронены.

Стваральнікі абяцаюць здзівіць наведнікаў незвычайнай падачай страваў ды напояў. Напрыклад, піва могуць прынесці ў вядры, вантузе ці нават медычным судне. Яшчэ з кулінарных «фішак» — «дні абароны дзяцей ад маннай кашы» з пашыраным дзіцячым меню. Так, у рок-кавярні будзе месца і для нашчадкаў рокераў.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Падлога выкладзеная вінілавымі пласцінкамі

«Я буду парушаць правілы працы ў грамадскім харчаванні і рабіць гэта нашым стандартам. Верагодна, бармэны змогуць падтрымліваць гасцей у выпіўцы, парушаючы дырэктыву №1», — жартуе Яўген.

«Рок не абмяжоўваецца адной музыкай. Гэта стыль жыцця. Узровень унутранай свабоды. Менавіта такіх людзей хацелася б сабраць», — кажа Аляксей. «Можна не любіць рок-музыку, але быць чалавекам свабодных поглядаў, — дадае Яўген. — Разумець, што ёсць нешта за межамі правілаў, дазволенага. Гэта і ёсць рок-н-рол. Гэта заўсёды быў пратэст, вольнае мысленне».

Як кажуць стваральнікі, «ТНТ» задумана «не на адну ноч». Іх ідэя — каб паміж кліентамі і барам завязаліся больш сур'ёзныя адносіны. Каб гэта быў «клуб» у добрым сэнсе слова, дзе збіраюцца аднадумцы.

**Аксана Рудовіч**

# Доктар, распішыцеся!

**Х'ю Лоры ў Мінску** наведаў музей Вялікай Айчыннай і павячэраў у «Гранд Кафэ».

Вось і дачакаліся. Нарэшце і мінская публіка атрымала шанец пераканацца ў тым, што самы папулярны ў свеце «доктар» з'яўляецца яшчэ і таленавітым музыкам. Як толькі стала вядома, што «канцэрту быць», аматары музыкі падзяліліся на два лагеры: першыя — тыя, у каго дэбютны альбом музыкі Х'ю Лоры Let Them Talk граў «на рэпіце», і другія, якія нічога не знайшлі ў альбоме і прыпісалі ажыятаж папулярнасці актора ў серыяле «Доктар Хаус». Так ці інакш, ахвотных аддаць за канцэрт ад 370 тысяч да 1,5 мільёна было шмат.


TUT.BY

Значна цяжэй было атрымаць аўтограф знакамітасці. Вядома, што Х'ю (незразумела, з якіх прычынаў) няшчодры на аўтографы. Даводзілася лавіць яго ў незвычайных месцах. Як толькі музыка выйшаў з музея Вялікай Айчыннай вайны, яго рашуча абступілі некалькі чалавек і запыталі пра аўтографы. З просьбай не фатаграфаваць, містар Лоры распісаўся. Гэта былі адзіныя мінчукі, якія атрымалі запаветныя росчыркі. Нават падчас канцэрта музыка забараніў падпускаць кагосьці да сябе. І толькі калі нехта з залы двойчы выгукнуў: Would you take my flowers? (Ці маглі б вы прыняць мае кветкі?) — блюз-выканаўца дазволіў дзяўчыне прайсці праз ахову і наблізіцца да яго.

Але многія не гублялі жадання атрымаць аўтограф. Пасля канцэрта мэтаскіраваныя маладыя людзі занялі пазіцыю каля ўваходу ў гатэль «Еўропа», у якім і спыніўся брытанец. З гатэля выйшла Сістэр Джэйн, бэк-вакалістка Х'ю Лоры. Вельмі яскравая цемнаскурая спявачка ўразіла ўсіх простасцю ў зносінах і... ружовым колерам валасоў. Пасля непрацяглай размовы яна скіравалася ў «Гранд Кафэ», дзе ў асобнай зале адпачываў пасля канцэрта артыст. Прыхільнікаў усярэдзіну не пускалі, і яны чакалі выхаду Х'ю Лоры аж да паловы на трэцюю ночы. Да ўсеагульнага расчаравання спевака атачала ахова.

Засмучэнню прыхільнікаў не было мяжы: амаль шэсць гадзін яны чакалі артыста, а той нават не павітаў іх! Жах! Сітуацыю згладзіў кантрабасіст Дэвід Пітч, які ахвотна ішоў на кантакт са слухачамі, даваў аўтографы і нават расказаў, што яго маці паходзіць з Беларусі. Ён, у адрозненне ад Х'ю Лоры (які не ведаў, што сказаць пра Беларусь падчас канцэрта), доўга апісваў свае ўражанні, а пасля дадаў: «У вашай краіне ёсць толькі адна праблема...» І ўсміхнуўся. Потым ён міла і смешна паўтарыў за кімсьці з натоўпу «Жыве Беларусь!» і накіраваўся ў гатэль.

Хоць той ноччу ніхто не атрымаў аўтографа ад сусветна вядомага «доктара-музыкі», але цяжка было знайсці чалавека, які б застаўся незадаволеным.

**Андрэй Макаёнак**

**In memoriam**

# Якуб Конан

**Памёр апошні** беларус-удзельнік бітвы пад Монтэ-Касіна.

Ён пахаваны на могілках каля мястэчка Беразінскае ў Маладзечанскім раёне, дзе жыў апошнія гады. Яму было 99.

Вайскоўца пахавалі 21 чэрвеня ў ганаровым месцы — каля самай царквы. На жалобе прысутнічаў вайсковы аташэ пасольства Польшчы ў Беларусі. Ніхто з прысутных на пахаванні не захацеў паехаць на могілкі — усе ішлі пешшу.

«Было прыемна, што вайсковы аташэ прывёз вельмі прыгожы вянок, — расказвае гісторык Барыс Бароўскі. — Ён прысутнічаў на службе ў Гарадзілаўскай царкве і на жалобным стале, па ўсім былі бачнае паважлівае стаўленне да нябожчыка. У сваёй прамове аташэ сказаў, што Польшча і далей прапаноўвае грашыма падтрымліваць сям'ю Якуба Конана. А калі апускалі труну, то аддаў чэсць жаўнеру».

Якуб Конан памёр 20 чэрвеня. Апошнія гады ў вайскоўца было няважнае здароўе, але аб ім клапаціліся сын і нявестка, ды і ўсе жыхары мястэчка вельмі шанавалі старога.

Якуб Конан нарадзіўся 28 сакавіка 1913 у сялянскай сям'і ў вёсцы Міхалова (цяпер — Маладзечанскі раён).

У 1936—1937 адбываў службу ў Войску Польскім. У 1939-м удзельнічаў у абароне Львова. Ад 1939 — у савецкім палоне, з якога вызвалены ў 1941 як польскі грамадзянін. Пасля гэтага залічаны ў склад палка лёгкай артылерыі 5-й пяхотнай дывізіі арміі пад камандаваннем генерала Андэрса. Узнагароджаны Памятным крыжам Монтэ-Касіна [мясцовасць у Італіі, дзе ў маі 1944 адбылася зацятая бітва: жаўнеры Арміі Андэрса, дзе было багата беларусаў, штурмавалі нямецкую лінію абароны — «НН»], медалямі. Ён належаў да «групы супрацівy» — польскіх жаўнераў, якія адмаўляліся дэмабілізоўвацца і вяртацца на радзіму, бо лічылі, што павінны змагацца далей. Дэмабілізаваўся толькі ў 1948. На радзіме ў 1951 арыштаваны і дэпартаваны ў Іркуцкую вобласць разам з жонкай і пяцімесячным сынам.

У 1958 яго вызвалілі, але выдалі ваенны білет, у якім адзначылі, што ён у Вялікай Айчыннай вайне не ўдзельнічаў.

Пра Монтэ-Касіна Якуб Конан згадваў: «Забыць такое немагчыма. Я быў у палку лёгкай артылерыі. Перад намі выступіў англійскі генерал і сказаў: «Салдаты, вы не ведаеце, што чакае вас у гэтую ноч... У многіх дамах не дачакаюцца сыноў, братоў... З Богам!».

Гэта была ноч на 10 мая 1944, калі ў ваколіцах горада цвілі чырвоныя макі. Гітлераўцы ўмацаваліся ў гарах, іх пазіцыя была больш зручная. Мы ж знаходзіліся на раўніне. Артпадрыхтоўку праводзілі толькі ноччу, пушкі закопвалі ў зямлю. У гэтую ноч я выпусціў з пушкі каля 800 снарадаў. Стваля награваліся так, што на іх лілі халодную ваду, каб астудзіць. Горад быў поўнасцю спалены. Пасля таго як нашыя танкі абышлі ворага з тылу і пайшлі на варожыя пазіцыі, наступіў перадом у баі. Нам удалося захапіць у палон камандуючага фронтам. Хоць і з вялізнымі стратамі і ахвярамі, перамогу мы ўсё ж вырвалі. Там мы і сустрэлі перамогу. Званілі ўсе касцёлы! Чуліся крыкі радасці, гучалі мірныя стрэлы».



**Якуб Конан (злева) у польскім войску.**

**«Рэгіянальная газета»**

# Што для роднай мовы можаш зрабіць ТЫ

Не ведаеш беларускую — **падтрымай яе носьбітаў рублём.**

Часта сутыкаюся з людзьмі, якія на маю беларускую мову пачынаюць расплывацца ў кампліментах: «Самі хоть мовы і не знаем, но поддерживаем». І не зразумела, засмучацца ці радавацца такой рэакцыі. Вось і нядаўна ехаў у цягніку разам з маладой парай з Мінска. Яна бухгалтар, ён распрацоўвае дызайн меню для банкаматаў. Працуюць у прыватнай фірме, добра зарабляюць. І праз гадзіну размоў дзяўчына пачынае мне выказваць сваё стаўленне да беларускай мовы. Станоўчае. Але сама не рызыкуе загаварыць. Адразу пачынаюцца адгаворкі: «Нас не вучылі. Мала хто размаўляе — таму няма практыкі...» Што могуць зрабіць такія людзі?




### Выкарыстоўвай мову ў прафесійнай дзейнасці

Замаўляеш шыльду для крамы? Замоў беларускамоўную. Змяшчаеш абвестку для суседзяў? Напішы яе па-беларуску. Віншуеш маму праз радыё? Знайдзі беларускія словы. Пішаш зварот у райвыканкам, каб дарогу адрамантавалі? Таксама па-беларуску. Падпісваеш паштоўку для настаўніцы з 8 Сакавіка? Па-беларуску. Досвед тысяч людзей, якія так робяць, паказвае, што гэта дзейнічае пазітыўна на самых розных узроўнях.

Мова жыве, не забываецца, калі мы яе бачым вакол. Рабі ў сваім асабістым жыцці такі выбар, каб ты павелічваў долю мовы.

### Купляй кнігі

Не размаўляеш па-беларуску, рабі тады хаця б нешта, каб мова развівалася. Купляй кнігі на роднай мове. Не хочаш чытаць класіку — купі зборнік сучаснага аўтара. У Эстоніі ў савецкі час кожная сям'я мела ў хаце Эстонскую энцыклапедыю і выданні кшталту нашага Беларускага кнігазбору. Гэта проста была маўклівая акцыя нацыянальнай салідарнасці. Селянін ты ці прафесар, ты ставіў на самую бачную паліцу нацыянальныя кнігі. Асудзіць за гэта саветы не маглі, а ў кожнай хаце з'яўляўся нацыянальны напамін.

А беларускамоўная дзіцячая кніга, чым яна горшая за расейскамоўную? Вядома, часта расійскія выданні значна таннейшыя. Ну што ж, купім дзіцяці адну кнігу на роднай мове замест дзвюх на чужой.

### Выпішы газету!

Нават нейкія чувашы ці удмурты, буранаўскія бабулі, маюць за прынцып: кожная сям'я выпісвае як мінімум адну газету і адзін часопіс на сваёй мове. Што маеш — тое і чытаеш. Хай сабе беларускамоўную прэсу абмежавалі — але ёсць і «Наша Ніва», і «Дзеяслоў», і рэгіянальныя выданні.

Вінаватыя не ўлады, вінаватая наша непрынцыповасць. Чым больш будзе грошай у беларускамоўных СМІ, тым больш яны змогуць публікаваць артыкулаў.

### Слухай сваё

Купляй музычныя дыскі. Наведай канцэрты беларускамоўных выканаўцаў. Хваля рок-, поп- і рэп-каманд, якія спяваюць на роднай мове, ёсць. А ёсць яшчэ і этна, і фолк, музыка сярэднявечча, бардаўская песня.

Калі нават ты нічога не ведаеш пра іх, дастаткова звярнуцца да інтэрнэту. Прымітыўнымі фразамі «беларускамоўны гурт», «музыка на беларускай мове» знойдзеш прыклады патрэбных выканаўцаў.

### Ці ходзіш ты ў тэатр?

Магчымасць пачуць літаратурную беларускую мову ўжывую — наведаць тэатр. Імя Янкі Купалы, Коласаўскі. З вуснаў прафесійных акцёраў ты пачуеш мову ў яе правільным вымаўленні. Разам з тым, сёння акцёры і дыктары прымаюць удзел у запісах аўдыёкніг. Іх можна слухаць нават у машыне.

### Давярай рэкламе

Чаму б не падтрымаць тавары, якія рэкламуюцца па-беларуску? Думаю, чалавек, які робіць беларускамоўную рэкламу, ідзе на гэта свядома.

Значыць, і ён непакоіцца за стан мовы. Набываючы мабільны тэлефон, пральны парашок ці муку, мы даказваем эфектыўнасць беларускамоўнай рэкламы.

Калі ты сапраўды заклапочаны ганебным станам беларускай мовы, падтрымай людзей, якія стараюцца не даць ёй знікнуць, рублём.

### Пішы ў бланках па-беларуску

У банках, на пошце, у падатковай інспекцыі і БТІ — усюды запаўняй бланкі па-беларуску. Гэта наша права і наш абавязак.

### Гавары з незнаёмымі па-беларуску

Каланіяльны псіхалагічны клін дзейнічае: вельмі часта мы гаворым па-свойму з бацькамі, суседзямі, а як толькі з'яўляецца чужы чалавек, пераключаемся на «мову міжнацыянальных зносін».

Вазьмі сабе за жорсткае правіла: з незнаёмымі людзьмі, на касе ў краме, у аўтобусе, на вуліцах, калі пытаюць дарогі, на стадыёне — гавару выключна па-беларуску. Без пазёрства, без дэманстрацыі, проста прыязна, у звыклым тоне.

І памятай — урэшце беларусы застануцца толькі тады, калі захаваюць мову. Інакш беларусы знікнуць на адным з паваротаў гісторыі, якая рыхтуе столькі неспадзяванак.

Гэты тэкст напісаны ў першую чаргу не для нас з вамі, хто ўжо свядома зрабіў свой выбар на карысць беларускай мовы ў жыцці, на працы, у сям'і... Гэта алгарытм працы з нашымі знаёмымі, суседзямі, бацькамі. Так кожны з нас можа змяняць свет.

**Сяргей Макарэвіч**

# Беларуская глыбіня. **Магілёўцы**

Піша **Павел Севярынец.**

*Божа! Ты ведаеш шаленства маё, і грахі мае ад Цябе не схаваны.*
*Псальмы 68:6*



**Павел Севярынец**
палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

«Магілёўцы» — так папростаму называецца пружанскі псіхіятрычны шпіталь. Калі ў Мінску суразмоўцу часам «накіроўваюць» у Навінкі, у Віцебску — на 9-ы кіламетр, а ў Магілёве да Пячэрска, дык у раёнах, прылеглых да Брэста, *вясёленькія жарты* звычайна заканчваюцца «Магілёўцамі».

Так-так, для абазнаных — гэта тыя самыя Магілёўцы, сядзіба магнатаў Быхаўцаў герба «Магіла», чыя бібліятэка на 3 тысячы тамоў у 1820-х сталася месцам сенсацыйнай знаходкі: настаўнік Віленскай гімназіі Іпаліт Клімашэўскі выявіў невядомую дагэтуль кроніку XVI ст., дзе па-беларуску выкладалася сабраная ўвадно гісторыя Вялікага Княства Літоўскага.

**Замест гісторыі краіны тут пішуць гісторыі хваробы**

Адмыслоўцы прызналі сапраўднасць летапісу. Адгэтуль «Хроніка Быхаўца» — адзін з кутніх камянёў гістарыяграфіі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Сур'ёзныя даследчыкі Расіі, Польшчы, Літвы, Украіны, Малдовы, Эстоніі, Латвіі не абыдуцца без гэтай найбольш поўнай беларускай крыніцы. Больш таго, менавіта «Хроніка Быхаўца» — ці не самы беларусацэнтрычны з тагачасных летапісаў: і нашыя вялікія князі там — героі, і перамогу пад Грунвальдам здабылі ліцвіны, і як былі тутэйшыя жыхары пабожныя — дык і Госпад ім дапамагаў...

Рукапіс «у чацвёртку», дваццаць сшыткаў, пісана дробна, роўна і сцісла, на старой паперы, вадзяны знак якой паказвае мясцовую фабрыку. Першапачаткова пісалася кірыліцай, а Нарбут, якому рукапіс перадалі, апублікаваў ужо лацінкай.

Магілёўцы, былая сядзіба Быхаўцаў, потым Дзяконьскіх — самае месца для шыкоўнага музея беларускага летапісання.

Але замест музея тут вар'ятня на сем карпусоў ды платныя медычныя паслугі для «вольных» хворых. Таму дзевяноста дзевяць са ста пружанскіх абывацеляў пры слове «Магілёўцы», ты чо, ясен пень, не адкажуць паролем «Хроніка Быхаўца», а крыва пасміхнуцца ды пакруцяць пальцам ля скроні.

О, як пяецца-апавядаецца ў раскошным мульціку «Будзьмы» — шалёны народ, беларускі народ!.. О, Беларусь — краіна вечных стрэсаў, падвышаных ціскаў і памежных станаў!.. Ці не ад самых тых антычных неўраў, насельнікаў дрымучых пушчаў, пайшла сённяшняя нацыянальная неўрастэнія?..

Хіба гэта не тыпова беларускі маніякальна-дэпрэсіўны псіхоз — тое, што мы бачым прыступамі то на дзяржаўнай тэлевізіі то ў каментарах у незалежным сеціве?..

Хіба ж гэта не параноя, калі мы з падазронасцю хаваем родную мову і гатовыя размаўляць па-расейску, папольску, па-англійску, абы толькі ніхто не здагадаўся, што мы ёсць тымі, кім мы ёсць?..

Хіба гэта не шызафрэнія, калі мы думаем адно, кажам другое, маем на ўвазе трэцяе, вырашаем чацвёртае, робім пятае, а ў выніку атрымліваецца палата нумар шэсць?..

Хіба гэта не дэбілізм — усенародна ўспрымаць крадзеж, хамства, п'янства і хлусню як норму, і ўзірацца на тых, хто не скраў, не схлусіў, не п'е ды не блудзіць, як на хворых?

Хіба не расстройства асобы — верыць (!) у тое, што Бога няма, бо: а) так нас вучылі ў Савецкім Саюзе; б) такі і такі вернік або святар жыве не пахрысціянску; в) а вось я Яго не бачыў?..

І пераклікаюцца тутэйшыя Магілёўцы з тымі «магілёўцамі», што апанавалі ўладныя кабінеты ў астатніх пяці абласцах ды сталіцы.

«У лета ад стварэння свету сем тысяч пяцьсот дваццатае, ад нараджэння ж Хрыстова дзве тысячы дванаццатае ўмысліў князь Аляксандр, у Менску седзячы, Маскве слугаваці ласкацельна, але ніякай маетнасці ёй не даваці, а панамі ляскімі ды нямецкімі пагардзіці, шкодзіці ім, аднак жа тайна з панамі тымі ўмаўляцца...»

Цяпер замест гісторыі краіны тут пішуць гісторыі хваробы.

Як так атрымалася: усе вакол у белым, беларус у сябе дома, але ў беларуса дома не ўсе?..

Як дакаціліся да такога жыцця? Вядома, ворагі. Зразумела, суседзі. Ясна, войны. Але ў каго іх не было?

Самапаглыбленне беларусаў здольнае давесці да шаленства.

Насамрэч гісторыя Беларусі надзвычай простая. Верылі ў Хрыста, любілі бліжняга, імкнуліся да волі — былі моцныя. Забывалі Бога, сварыліся, апускалі рукі — правальваліся. «Хроніка Быхаўца» фіксуе гэтую заканамернасць адкрытым тэкстам. А мы, «сучасныя», схільныя па-савецку спісваць маральныя высновы гісторыі на «адсталы светапогляд», усё дашукваемся прычынаў, сэнсу і ніяк не можам патрапіць пальцам у неба.

Дастаткова двух ці трох, сабраных у імя Хрыстова, каб і Ён, Хто ацаляў псіхаў адным дотыкам ды нават мёртвых падымаў з магілаў, стаў побач.

Свет палічыць, што ты звар'яцеў?

Але каб уся Беларусь, жывы летапіс сэрца Еўропы, не ператварылася ў суцэльныя Магілёўцы, камусьці трэба ссунуць свой абывацельскі дах набакір і зрабіць тое, што прапісана ў Евангеллі: адрачыся ад сябе, узяць крыж свой і проста ісці за Ім.

*Куплін*

# Гісторыя Беларусі. Частка XXIV

## Як Усяслаў Полацкі знішчаў гандлёвых канкурэнтаў

Піша **Алег Дзярновіч**.

*Адпусціўшы лейцы,*
*Едзеш канём вараным*
*Дадому.*
*Алесь Разанаў*
*«Усяслаў Чарадзей»*

Папярэдні нарыс («НН»№3 ад 25 студзеня 2012) быў прысвечаны валадаранню ў Полацку Брачыслава Ізяславіча. Пасля смерці гэтага недаацэненага гісторыкамі князя наступае бурлівая і каларытная эпоха яго сына — Усяслава.

Гэта самы вядомы і папулярны персанаж з перыяду гісторыі Беларусі, які Мікола Ермаловіч акрэсліў як Полацкі. Неардынарнасць асобы князя была ацэненая ўжо сучаснікамі. Рускія летапісы паведамляюць пра Усяслава беспрэцэдэнтную колькасць біяграфічных дэталяў і вобразных характарыстык.

### Загадка нараджэння

Першы раз Усяслаў згадваецца ў летапісах у 1044, калі памёр князь Брачыслаў і яго сын успадкаваў полацкі стол. Тут жа летапіс — напісаны ў варожым Кіеве — паведамляе, што «маці ж яго нарадзіла ад чарадзейства». І робіць таямнічае ўдакладненне: «Калі маці яго нарадзіла, на галаве ў яго было язвена. І сказалі вешчуны яго маці: «Гэтае язвена навяжы на яго ды няхай носіць да смерці сваёй». І носіць Усяслаў яго на сабе, таму і нелітасцівы на праліццё крыві».



**Пярсцёнак-пячатка Усяслава.**

Першае, што прыходзіць на думку, — летапісец меў на ўвазе радзімы знак на галаве. Хоць у XIX ст. гісторыкі лічылі, што «язвена» — гэта добра вядомы каўтун, калі ў выніку экзэмы валасы на галаве зліпаюцца ў клубкі ці коскі. Але ў XX ст. Дзмітры Ліхачоў і Барыс Рыбакоў вылучылі версію, што таямнічая адзнака Усяслава — рэшткі зародкавай абалонкі — амніёна, так званай «кашулі», у якой часам нараджаюцца дзеці. Гэта не паслед (плацэнта з пупавінай), што выходзіць «пасля», а менавіта рэшткі абалонкі на галаве. Гэты варыянт найбольш адпавядае летапіснаму апісанню.

### Наступ на Балтыку

На пачатку валадарання Усяслаў працягваў бацькаву палітыку пашырэння ўплыву Полаччыны на балцкія плямёны, што жылі ніжэй па Дзвіне. У яго час латгалы і лівы сталі даннікамі Полацка, а ў ніжнім Падзвінні, на тэрыторыі сённяшняй Латвіі былі заснаваны полацкія фарпосты — Герцыке і Кукенойс. Можна спрачацца пра ступень іх залежнасці ад Полацка. Магчыма, Герцыке і Кукейнос былі латгальскімі княствамі, аднак неаспрэчна, што яны знаходзіліся ў васальнай залежнасці ад Полацка, які атрымліваў цяпер магчымасць кантраляваць і рух на Балтыйскім моры.

Усяслаў імкнуўся захоўваць мір з балцкімі плямёнамі, аднак прымушаў іх рэгулярна даваць даніну. Пра тое, што гэтыя два кірункі трэба было ўмець сумяшчаць, сведчаць падзеі 1106, калі наступнік Усяслава, верагодна полацкі князь Барыс, здзейсніў паход на земгалаў, якія жылі на левым беразе Дзвіны на тэрыторыі Латвіі. Відаць, пасля смерці Усяслава яны перасталі плаціць даніну полацкаму князю. Выправа на земгалаў стала катастрофай для полацкага войска: паводле Лаўрэнцеўскага летапісу, «перамаглі земгалы Усяславіча, усю брацію і дружыну пабілі, 9 тысяч».



**Усяслаў — самы вядомы і папулярны персанаж полацкіх часоў. Першы конны помнік у краіне быў пастаўлены яму.**

### Зігзагі паўночнай палітыкі

Паўднёвая, кіеўская палітыка Усяслава першыя дзесяць гадоў заставалася паслядоўнай — Полацк падтрымліваў мірныя стасункі з Кіевам, дзе да 1054 г. княжыў Яраслаў Мудры. І з Яраславічамі спачатку хаўрусаваў: у 1060 паўднёварускія князі разам з Усяславам выправіліся на торкаў — качавое племя, якое нападала на Паўднёвую Русь. Паход быў удалым.

Некаторыя гісторыкі мяркуюць, што ў якасці «ганарару» за ўдзел у паходзе полацкі князь атрымаў Оршу і Копысь, якія раней належалі Смаленскаму княству.

Але ў 1065 адбыўся радыкальны паварот палітыкі Усяслава — полацкае войска напала на Пскоў. Горад выстаяў, палачане ж вярнуліся ні з чым. У гэты час Яраславічы былі занятыя змаганнем за Тмутаракань і не здолелі супрацьдзейнічаць Усяславу. І той ужо ў 1066 рушыў на Ноўгарад.

Войска наўгародскага князя Мсціслава Ізяславіча было разбітае на рацэ Чарэсе, князь ратаваўся ўцёкамі. Палачане разрабавалі Ноўгарад, вывелі

**Што штурхала Усяслава на поўнач? »**

жанчын і дзяцей у палон, а горад падпалілі. І сёння археолагі добра прасочваюць слой пажару на тэрыторыі Ноўгарада XI ст.

Што штурхала Усяслава на поўнач? Археолаг Марат Клімаў даводзіць, што полацкі князь проста знішчаў гандлёвых канкурэнтаў. Бо менавіта праз Ноўгарад і Пскоў ва Усходнюю Еўропу трапляла асноўная колькасць срэбнага заходнееўрапейскага дынарыя — універсальнай валюты XI ст. Апроч таго, Ноўгарад фактычна манапалізаваў пастаўкі футра ў Заходнюю Еўропу, што адмоўна адбівалася на полацкім гандлі. Усяслаў здолеў адстаяць інтарэсы полацкага купецтва: з другой паловы XI ст. рэзка ўзрастае інтэнсіўнасць паступлення дынарыя па Заходняй Дзвіне — пра гэта сведчаць знаходкі нумізматычнага матэрыялу. Яшчэ адна важная дэталь выправы 1066 — летапісцы адзначаюць, што з наўгародскай Сафіі паводле загаду Усяслава былі зняты званы ды забраныя панікадзілы. Гэтае блюзнерства дазваляе нам узяцца за насамрэч дыскусійную тэму: хто ж пабудаваў полацкую Сафію?

Пра Сафію, пра расплату, а таксама пра тое, ці быў Усяслаў чарадзеем, ды пра Дзікае паляванне чытайце ў наступным выпуску «Гісторыі Беларусі».

# Спіс — беларускі, але ці катынскі?

Дакументы, **знойдзеныя ў Маскве**, не раскрылі апошняй таямніцы Катынскай трагедыі.

Спіс з 1996 прозвішчаў афіцэраў польскага войска, перавезеных у Мінск з турмаў НКВД у Брэсце, Пінску, Баранавічах, Гродне, Беластоку ў 1940, адшукала гісторык Наталля Лебедзева ў Расійскім дзяржаўным ваенным архіве. Адразу ж з'явілася надзея, што гэты дакумент можа быць таямнічым «беларускім катынскім спісам».

Знойдзены дакумент — гэта запоўненыя ад рукі (мяркуючы па почырку, адной асобай) табліцы з прозвішчамі, імёнамі і імёнамі па бацьку вязняў, якіх 15-я брыгада канвойных войскаў НКВД перавозіла ўвесну 1940. Ёсць таксама інфармацыя, адкуль і куды іх транспартавалі.

Вядомыя і прозвішчы энкавэдыстаў, якія складалі тыя спісы. У Брэсце гэта быў лейтэнант Рыгор Фінкельберг, у Пінску — лейтэнант Аляксандр Купрыянаў, ў Вілейцы — лейтэнант Мікалай Кажэўнікаў, а ў Беластоку — капітан Ізраіль Пінзур...

Усяго, як бачна з дакумента, у Мінск звезлі больш за 1800 з 1996 згаданых у спісе асобаў. Яны маглі быць расстраляныя, як у той самы час мардавалі афіцэраў у Катыні, Цверы і Харкаве.

У тым, што апрылюднены прафесарам Наталляй Лебедзевай спіс з'яўляецца «беларускім катынскім спісам», усумніліся польскія гісторыкі з Асяродку KARTA. Яны сцвярджаюць, што знойдзеныя дакументы — гэта проста кнігі рэгістрацыі асобаў, адканваяваных у 1939—1940 гг. спецканвоем 15-й брыгады. Гісторыкі «Карты» кажуць, што ў знойдзеным Лебедзевай спісе фігуруюць польскія грамадзяне, якія пасля апынуліся ў лагерах, у арміі Андэрса, і далейшы лёс якіх вядомы.

«Я мяркую, што 2/3 пададзенага спісу — тыя, хто быў расстраляны ў Мінску ў красавіку-маі 1940-га, — сказаў «Еўрарадыё» гісторык Ігар Кузняцоў. — Беларускі КДБ адмаўляе, што ў Беларусі ёсць гэты спіс, ФСБ не пацвердзіла, што мае гэты спіс, але мы можам меркаваць, што гэта ўпершыню апублікаваная частка таго катынскага спісу». На думку гісторыка, усяго ў «беларускім катынскім спісе» — як мінімум 3870 прозвішчаў.

**СМ**

**«Ніводзін паляк не быў расстраляны ў Беларусі»**

Заявіў Лукашэнка 23 снежня 2011, адказваючы на пытанне пра беларускі катынскі спіс. «У нас аказаліся толькі перасыльныя пункты», — казаў ён. На думку Лукашэнкі, палякаў у Беларусі не расстрэльвалі, магчыма, таму, што баяліся рэакцыі мясцовага насельніцтва.

Варта адзначыць, што і ў часе раскопак у Курапатах былі знойдзены асабістыя рэчы вырабу міжваеннай Польшчы ці з надпісамі на польскай мове, якія могуць паходзіць толькі з пахаванняў 1939—1941 гадоў.

У Беларусі ад рук саветаў загінула, паводле ацэнак гісторыкаў, каля 200 тысяч чалавек.

### Беларускі антысавецкі рух і барацьба з Ватыканам




Выйшла кніга польскага гісторыка Яна Шумскага «Саветызацыя Заходняй Беларусі (1944—1953)».

Аўтар паспрабаваў паказаць «перамены ў жыцці і свядомасці жыхароў, што адбываліся ў перыяд 1944—1953 на тэрыторыі, якую палякі часта называюць паўночнаўсходнімі крэсамі, а беларусы — Заходняй Беларуссю».

### Калі жыхары Латгаліі размаўляюць па-беларуску?




Выдадзеная ў перакладзе манаграфія польскага лінгвіста Міраслава Янковяка «Беларускія гаворкі ў Краслаўскім раёне Латвіі». «У адным з артыкулаў Яўхім Карскі напісаў, што праз 100 гадоў беларускіх гаворак ужо не будзе, бо яны не вытрымаюць наступу расейскай альбо польскай мовы. Мінула ўжо цэлае стагоддзе, а беларускія гаворкі ў Латгаліі захаваліся ў даволі добрым стане,» — піша аўтар.

Выданні можна знайсці ў кнігарнях і ў незалежных распаўсюднікаў.

**КМ**

# Пікнік.Ву




**1 ліпеня на хутары Шаблі пад Валожынам пачнецца фестываль ПІКНІК.BY.**
На галоўнай сцэне з 14.00 да 23.00 сыграюць кабарэ-бэнд «Срэбранае вяселле», «Разбітае сэрца пацана», Chiefs Band, Botanic Project, Akute, The UNB, «Чэрчыль» (RockerJoker), «Красныя звёзды», «Касіяпея», Monkey Bite. На другой сцэне выступаюць Pomidor/off, HandmadE, Паліна Рэспубліка, Анастасія Шпакоўская, «Гаротніца», Guda, Pawa, «Людзі на балоце», «Нагуаль», «Князь Мышкін», праект «Танцы з Бубнам», а таксама Diamos Roll&Руся.
Трэцяя пляцоўка запрацуе ўначы. Гэта будзе імправізаваны клуб $ARA¥, у якім сыграюць свае сэты ды-джэі з Беларусі SheJay Ksana, Andy Roc, Карамыслаў Рара Во, а таксама госці з Літвы.

## БАСКЕТБОЛ

### Беларусь — Партугалія



**У рамках адбору да Чэмпіянату Еўропы** нашы дзяўчаты прымуць баскетбалістак Партугаліі. Гульня пройдзе 4 ліпеня ў Палацы спорту. Пачатак а 19.30.

## ФУТБОЛ

### 16 тур

**27 чэрвеня** адбудуцца гульні наступнага тура Чэмпіянату Беларусі па футболе. Сустракаюцца:
«Нафтан» (Наваполацк) — «Славія» (Мазыр),
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Мінск»,
«Шахцёр» (Салігорск) — «Белшына» (Бабруйск),
«Дынама» (Мінск) — «Брэст»,
«Нёман» (Гродна) — БАТЭ (Барысаў).

## ІМПРЭЗЫ

### Спадчына стагоддзяў

**Ад 29 чэрвеня да 1 ліпеня ў Мірскім замку** пройдзе II Міжнародны фестываль гістарычнай рэканструкцыі сярэднявечча «Спадчына стагоддзяў». Гледачы змогуць акунуцца ў атмасферу сапраўднага рыцарскага турніра — з дакладным выкананнем правілаў і звычаяў Сярэднявечча. Таксама ў праграме фэсту — спаборніцтва лучнікаў, пастановачная бітва з выкарыстаннем піратэхнікі, сярэднявечны кірмаш з атракцыёнамі і канцэрт, гістарычная карчма. Пачнецца фестываль 29 чэрвеня а 17.00, у наступныя дні праграма пачынаецца аб 11.00. Даведкі па т.: (44) 550-40-50.

### Global Gathering-2012

**30 чэрвеня а 18-й на аэрадроме «Баравая» пад Мінскам** пачнецца фестываль электроннай музыкі Global Gathering Freedom Music. Хэдлайнер фестывалю — Tiësto. Бяруць удзел Laidback Luke, Ferry Corsten, Sub Focus, M.A.N.D.Y, Jaguar Skills, W&W, Sunnery James & Ryan Marciano, Paul Thomas, Spartaque.

### Летні кірмаш-2012

**Да 1 ліпеня ў выставачным павільёне БелЭКСПА (Я.Купалы, 27)** працуе «Летні кірмаш-2012». У экспазіцыі кірмашу — кветкі, расада, ландшафтны дызайн, садовая мэбля, прадметы адпачынку.

### Тэатральны куфар

**Ад 2 да 6 ліпеня ў Мінску** пройдзе IX Міжнародны фестываль студэнцкіх тэатраў. Урачыстае адкрыццё адбудзецца 2 ліпеня ў ДК Прафсаюзаў а 19.00.

## КАНЦЭРТЫ

### GOLD Fest

**30 чэрвеня а 16-й у Re:Public (Прытыцкага, 62)** — GOLD Fest. Возьмуць удзел «Красныя звёзды», «МутнаеВока», Pomidor/Off, «Без Панікі», PunKrot, B:N: 7000$.

### Тэатр танца на пілоне

**30 чэрвеня а 19-й у Музычным тэатры** — тэатр танца на пілоне. Танец на пілоне — напрамак сучаснай харэаграфіі, дзе спалучаюцца танцавальнае мастацтва і элементы акрабатыкі.

## ВЫСТАВЫ

### Андржэй Аліва і Томаш Ціхы

**Да 7 ліпеня ў Вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** працуе выстава скульптуры Андржэя Алівы /Ondřej Oliva і жывапісу Томаша Ціхага /Tomas Tichy (Чэхія).

### Расійскае золата



**Да 14 верасня ў Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава «Каштоўныя ўзоры. Золата ў помніках дэкаратыўна-выяўленчага мастацтва і пісьменства». На выставе прадстаўлена звыш 130 прадметаў са збораў расійскага Дзяржаўнага гістарычнага музея (Масква), у аздабленні якіх выкарыстоўвалася золата.

### Веткаўскія абразы

**Да 23 ліпеня ў Мастацкім музеі (Леніна, 20)** працуе выстава «Веткаўскія абразы XVIII—XIX стст. у шытых бісерных акладах». На выставе паказана 50 прадметаў: абразы ў акладах, асобныя бісерныя аклады на абразы.

### Валіза

**У Музеі гісторыі Мінска (Рэвалюцыйная, 10) да 22 ліпеня** працуе выстава Ірыны Дзёмінай «Валіза». На выставе прадстаўлены вырабы са скуры — 7 непаўторных валізаў.

### musik + X

**Да 30 чэрвеня ў Мінскім палацы дзяцей і моладзі (Старавіленскі тракт, 41)** працуе выстава «musik + X». Гэта фестываль, дзе кожны аматар сучаснай музыкі знойдзе штосьці на свой густ. У чатырох залах прадстаўлены чатыры музычныя напрамкі: поп-музыка, індзі-рок, хіп-хоп ды тэхна, а таксама звязаная з імі атрыбутыка. Галоўныя элементы выставы — вялікія праекцыі, дзе «грае музыка».



### ТэатрУршулі Радзівіл

**30 чэрвеня і 1 ліпеня ў замку Радзівілаў у Нясвіжы** пройдзе арт-фэст «Тэатр Уршулі Радзівіл». Толькі тут у гэтыя дні адбудзецца сустрэча Гісторыі і Сучаснасці, адкрыюцца таямніцы старога замка і яго жыхароў, а ў самую поўнач з'явіцца здань Чорнай Дамы Нясвіжа. На алеях парку, калі пашчасціць, сустрэнецца сам Караль Станіслаў Радзівіл — пане Каханку — на вазку, што запрэжаным чацвёркай мядзведзяў.

## ТЭАТРЫ

### 27 чэрвеня

**Оперы і балета** — «Анюта»

### 28 чэрвеня

**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Оперы і балета** — «Анюта»

### 30 чэрвеня

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»

### 2 ліпеня

**Беларускай драматургіі** — «Містар Розыгрыш»

### 4 ліпеня

**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

### 5 ліпеня

**Юнага гледача** — «Вандраванне ў княства Сноў»
**Купалаўскі** — «Лістапад. Андэрсэн»

### 6 ліпеня

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Купалаўскі** — «Лістапад. Андэрсэн»
**Беларускай драматургіі** — «Адвечная песня»

### 8 ліпеня

**Купалаўскі** — «Офіс»

## КІНО

### Прэзідэнт і вампіры

**Прэзідэнт Лінкальн: паляўнічы на вампіраў** (Abraham Lincoln: Vampire Hunter)
ЗША, 2012, каляровы, 105 хв.
**Рэжысёр:** Цімур Бекмамбетаў
**Ролі выконваюць:** Бенджамін Уокер, Дамінік Купер, Энтані Макі, Мэры Элізабет Уінстэд, Руфус Сьюэл
**Жанр:** вампірска-біяграфічны комікс паводле сцэнара і кнігі Сэта Грэхэма-Сміта
**Адзнака:** 7 (з 10)

Маці галоўнага героя забіў вампір. Калі хлопчык пасталеў, то навучыўся змагацца з крывасмокамі, секучы іх. Вупыра абезгаловіў сякераю нават ён… Вы правільна здагадаліся: гэты чалавек — Абраам Лінкальн, а зубастыя істоты, ахвочыя да крыві, — плантатары-рабаўладнікі. Спявак «Начнога Дазору» Цімур Бекмамбетаў пад кіраўніцтвам прадзюсара Ціма Бёртана зрабіў сваю версію гераічнага жыцця амерыканскага прэзідэнта. Днём Лінкальн — палітык, уначы — паляўнічы з сякерай.
Бекмамбетаў яшчэ любуецца замаруджана-рэкламнымі пырскамі крыві, але дзеянне ў коміксе яснае і няспыннае. А сцэна бойкі Лінкальна з упырам пад капытамі коней — гэта невераголны атракцыён.
У гэтай гатычнай казцы з сякерай і кулакамі не варта шукаць біяграфіі і сапраўднай амерыканскай гісторыі. Бекамамбетаў з Бёртанам пацяшаюць, не забываючы пра ідэйныя чыннікі. Паводле фільма, прыхільнікі несвабоды — крывасмокі — атабарыліся па-за межамі Злучаных Штатаў «у Старым Свеце і на Усходзе».

**Андрэй Расінскі**



# Дзесяць валанцёрскіх летнікаў

**Для аматараў гістарычнай спадчыны.**

Валанцёрскія летнікі будуць адбывацца на працягу ўсяго лета. Гэта не поўны спіс, але выбар усё адно дастаткова вялікі, каб наважыцца і з'ездзіць кудынебудзь: ратаваць замак, прыбіраць гістарычныя могілкі, шукаць новыя археалагічныя аб'екты ці даследаваць ужо выяўленыя. Вы маеце шанец атрымаць добрыя ўражанні, пазнаёміцца з цікавымі мясцінамі і людзьмі, а галоўнае — зрабіць карысную справу.

**1. Любча**

Бестэрміновы летнік адбываецца ў вёсцы Любча Навагрудскага раёна. «Тэлефануйце, папярджвайце і прыязджайце ў любы час, апроч 3–24 ліпеня», — просяць арганізатары, Беларуская асацыяцыя студэнтаў-архітэктараў. Патрэбная дапамога для будавання купала, кладкі сцяны, падрыхтоўкі цэглы і догляду за паркам. Умовы пражывання камфортныя: памяшканні, ложкі, коўдры і нават кухня.

*Кантакты: +375 29 838 76 51 Дыяна, lubcza.by*

**2. Каменюкі**

Ад 1 да 30 жніўня ў вёсках Белая і Каменюкі на Камянеччыне адбудуцца археалагічныя раскопкі (магчыма, разведкі) помнікаў каменнага і бронзавага вякоў пад кіраўніцтвам археолага Алега Ткачова. Валанцёры змогуць жыць у памяшканнях.

*Кантакты: +375 29 143-67-90*

**3. Гальшаны**

На тэрмін ад 30 ліпеня да 12 жніўня «Беларускі камітэт ICOMOS» і «Гісторыка» ладзяць добраўпарадкаванне тэрыторыі вакол Гальшанскага замка на Ашмяншчыне.

*Кантакты: +375 29 896 97 85 (Валянціна), +375 29 746 11 85 (Наста), +375 29 557 11 24 (Цімох), icomos.by*

**4. Крэва**

Ад 1 да 18 жніўня пройдзе летнік дабрачыннага фонду «Крэўскі замак». У праграме археалагічныя раскопкі, прыборка тэрыторыі старых могілак, падрыхтоўка тэрыторыі замка да фестывалю, фота- і мастацкія пленэры, даследаванне старажытнай забудовы (габрэйскі цэнтр, ДАКі, вясковая забудова). Жыць можна як у памяшканнях, так і ў намётах.

*Для ўдзелу ў летніку запоўніце анкету на сайце kreuskizamak.by*

**5. Залессе**

На Смаргоншчыне адбудзецца і яшчэ адзін летнік. З 11 да 25 ліпеня ў Залессі можна далучыцца да працаў на тэрыторыі сядзібы Агінскага. Для ўдзелу Беларуская асацыяцыя клубаў ЮНЕСКА просіць зрабіць абавязковы ўнёсак 200 тысяч рублёў.

*Кантакты: +375 29 681 86 09, olga.khabibulina@gmail.com*

**6. Ружаны**

Аналагічныя працы ад 16 да 28 ліпеня будуць адбывацца ў Ружанскім замку (Пружанскі раён). Унёсак складае 150 тысяч рублёў.

*Кантакты: +37529 779 28 83, hanna.baradzina@gmail.com*

**7. Бялынічы**

Археалагічныя раскопкі на помніку эпохі мезаліту (8–5 тыс.г. да н. э.) будуць адбывацца каля Бялынічаў з 1 да 18 ліпеня. Арганізатар — археолаг Аляксандр Вашанаў.

*Кантакты: +375 29 276 94 23*


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Ружанскі замак ужо пачалі рэстаўраваць.**

**8. Мядзельскі раён**

Аматараў раскопак чакаюць і ў вёсцы Мілты на Мядзельшчыне. Працы на курганным могільніку будуць весціся ад 1 да 21 жніўня пад кіраўніцтвам археолага Мікалая Плавінскага.

*Кантакты: +375 29 679 36 67*

**9. Уселюб**

Паспрабаваць дапамагчы аднаўленню капліцы О'Рurkaў і інвентарызацыі гістарычных могілак можна ў вёсцы Уселюб на Навагрудчыне ад 16 да 29 ліпеня.

*Кантакты: +375 29 504 31 14 (Таша), МГА «Гісторыка»*

**10. Гарадзішча днепрадзвінскай культуры**

Інстытут гісторыі НАН Беларусі рыхтуе экспедыцыю па раскопках археалагічнага комплексу ў вёсцы Бірулі Докшыцкага раёна. Там знаходзяцца гарадзішча днепрадзвінскай культуры і курганны могільнік. Намётавы лагер у сасновым бары будзе працаваць ад 6 да 26 ліпеня. Возера знаходзіцца за 3 км ад лагера, а крама — за 5 км.

*Арганізатары: Андрэй Вайцяховіч (+375 29 578 23 75), Зоя Харытановіч (+375 29 670 63 80), zoya.arch@gmail.com*

**Паводле icomos.by**

**Аўто**

# Паляванне на гоншчыкаў

**З 1 ліпеня запрацуе сістэма фіксацыі фота- і відэапарушэнняў.**

Спачатку стацыянарныя камеры будуць працаваць толькі на трасе М1 (Брэст — мяжа з Расіяй). Там усталявана 15 такіх прыбораў, яшчэ 10 плануецца ўвесці найбліжэйшым часам, і з кожным месяцам іх будзе ўсё больш. Пра тое, што ўсталяваная камера, кіроўцаў папярэдзяць інфармацыйныя шчыты з надпісам «Radar. Фотакантроль».

Некалькі здымкаў робяцца практычна адначасова — са слабой успышкай і больш моцнай, каб падсвятліць нумар і сам аўтамабіль нават у цёмны час сутак. Пры гэтым сістэма спрацоўвае толькі ў тым выпадку, калі машына рухаецца з перавышэннем хуткасці.

Штраф выстаўляецца па мінімальнай шкале. За перавышэнне хуткасці, напрыклад, ад 10 да 20 км/г — 0,5 базавай велічыні (50 тыс. рублёў). Калі штраф не будзе аплачаны цягам месяца, на ўладальніка пададуць у суд. У талон пазнака ставіцца не будзе.

Галоўнае пытанне ўсёй задумы — каго менавіта будуць прыцягваць да адказнасці за правапарушэнне. Бо часта аўтамабіль зарэгістраваны на аднаго чалавека, а рэальна ім кірыстаецца зусім іншы кіроўца. Як апратэставаць? «Уладальнік машыны мае права звярнуцца ў ДАІ менавіта па месцы жыхарства», — зрабілі акцэнт супрацоўнікі Дзяржаўтаінспекцыі. — Але ён павінен прадставіць доказы, што не ён знаходзіўся за рулём. Гэта значыць, высвятляць, хто ехаў, ДАІ не будзе. Дарэчы, калі ж аўтамабіль быў прададзены па даверанасці, то плаціць штраф замест пакупніка будзеце менавіта вы.

**Паводле Onliner.by**

**Камеры відэафіксацыі на трасе «Брэст — мяжа з Расіяй»**




# Топ-5 бясплатных беларускіх праграм для айфонаў

**Як з дапамогай прыладаў Apple зрабіць жыццё больш камфортным?**

**1. «У нескладовае» (u-neskladovae)**

На жаль, ні айфон, ні айпад не маюць беларускамоўнай раскладкі. Літару «і» можна знайсці ва ўкраінскім алфавіце, але што рабіць з «ў»? Гэтая простая бясплатная праграма змяшчае «ў нескладовае» ў буфер абмену. Цяпер, друкуючы пост у сацыяльных сетках ці тэкставых рэдактарах, можна пстрыкнуць на кнопку «ўставіць» і дадаць літару ў сказ.

**2. Праграма перадач (tv-guide-by)**

Наступныя дзве праграмы стварыў распрацоўшчык Уладзімір Няхай. Першая з іх паказвае праграму перадач дзясяткаў тэлеканалаў, уключна з кабельнымі. Яна скачваецца адночы ў тыдзень і больш не патрабуе доступу ў інтэрнэт. Сярод дадатковых функцый — магчымасць нагадвання пра патрэбную перадачу.

**3. Расклад руху (transport-timetable-in-minsk)**

У адрозненне ад папулярнай праграмы TransPot на андроідах, айфонаўская версія патрабуе злучэння з інтэрнэтам, каб спраўдзіць інфармацыю на сайце «Мінсктранса». Праўда, некалькі «любімых» прыпынкаў можна занесці ў раздзел «выбранае». Тады прыбыццё транспарту на іх можна будзе ўбачыць і без падключанага інтэрнэту.

**4. Тэлебачанне (3gtv-vy)**

Праграма 3G TV дазваляе праглядаць адзін з 12 каналаў. Сярод іх расійская і англійская версіі Euronews, «Вести-24», «РИА Новости» і нават цуд айчыннай прапаганды «Беларусь-ТБ». Распрацоўшчыкі заяўляюць, што праграма працуе толькі на тэрыторыі Беларусі.

5. Пошук лекаў + база аптэк (poisk-lekarstv-v-minske)

Кошт медыцынскіх прэпаратаў у розных аптэках можа адрозніваць у 2–3 разы. Каб не пераплачваць лішнія грошы, ды і проста пераглядзець, дзе патрэбныя лекі ёсць у наяўнасці, можна ўстанавіць гэтую праграму. Яна шукае прэпараты на сайце 169.med.by. Атрыманыя дадзеныя будуць даступныя і без доступу ў інтэрнэт. Апроч таго, у праграме ўтрымліваецца інфармацыя пра ўсе аптэкі Мінска.

**Ягор Марціновіч**

**Сцісла**

**«Белкаапсаюз» пачаў закупку чарніцаў і лісічак**

Прадпрыемствы спажывецкай кааперацыі пачалі нарыхтоўку чарніцаў. Стартавая закупная цана на чарніцы ўстаноўлена на ўзроўні 12–18 тысяч рублёў за кг, але яна будзе змяняцца ў залежнасці ад прапановы. А вось лісічкі пакуль што прымаюць па 20 тысяч рублёў за 1 кг.

**Закрываецца «Грыгараўшчына»**

З 15 ліпеня па 15 кастрычніка закрываецца рух праз пункт пропуску «Грыгараўшчына», што на мяжы з Латвіяй. Бліжэйшая альтэрнатыва — пераход Урбаны каля Браслава.

**ЯМ**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

«Дні культуры Катара» прайшлі ў Мінску. Катар — самая багатая краіна ў свеце. Іхні эмір Хамад бін Халіфа Аль Тані ў 1995 скінуў з трона ўласнага бацьку. Катар фінансаваў рэвалюцыі і паўстанні ў Егіпце, Лівіі, Сірыі. Аляксандр Лукашэнка летась наведваў Доху.



**Так выглядае дагістарычны беларускі прусак. Унікальная знаходка ў Салігорску. Даўжыня кузуркі — больш за 30 см, знаходку аддалі ў гістарычны музей.**





PHOTO.BYMEDIA.NET

**Беларускамоўны гурт «Рэха» даў канцэрт на вуліцы Маркса ў Мінску, якая з нядаўняга часу стала пешаходнай. Праўда, без аўтазакаў збоку не абышлося.**



**«Міс Грудзі» Кацярына Нікандрава падтрымала палітвязняў фотасесіяй пад назвай «Мае цацкі салідарныя».**

## Анекдоты

* * *

Галоўным трэнерам зборнай Расіі па футболе прызначаны Сідараў Пятро Васільевіч — настаўнік фізкультуры з Мыцішчаў, з аплатай па 12 разрада адзінай тарыфнай сеткі.

Як растлумачылі ў Расійскім футбольным саюзе — «калі не відаць розніца — навошта плаціць болей».

* * *

На працоўным стале камп'ютара Патрыярха ўсяе Русі Кірыла заміраточылі іконкі «Сеткавае атачэнне» і «Мае дакументы».

* * *

Рабіновіч тэлефануе ў міліцыю:

– Алё! Міліцыя? У мяне дома масавыя беспарадкі!

– Выязджаем, падрабязней, што адбываецца?

– Мая Сарачка разбушавалася!

– Дык якія ж гэта масавыя беспарадкі?

– О-о-о, вы не ведаеце, якая ў яе маса!

* * *

– Чаму Беларусь не ўдзельнічае на «Еўра»?

– Бо ўсе палі зааралі.

* * *

– А вось Сяржа ў нас амбідэкстар.

– Хто-хто?

– Сяржа.

* * *

Навошта лідараў апазіцыі тэставаць на дэтэктары хлусні? Катаваць — больш эфектыўна.

* * *

– Каханы, у нас сёння гадавіна вяселля. Мо зарэжам кабанчыка?

– А прычым тут кабанчык? Гэта брата б твайго зарэзаць: ён нас пазнаёміў.

## «НН» сто гадоў з вамі

Гэй наперад, покі сэрца
Б'ецца, рвецца на прастор!
Годзе млеці ў паняверцы;
Гэй да сонца! Гэй да зор!

*Янка Купала*

**«НН». №25. 1912.**

**Два з паловай гады абмежавання свабоды для Міколы Маркевіча, два гады — для Паўла Мажэйкі.** Такі прысуд зачытала суддзя Т.Клімава. Кропка ў судовым працэсе супраць журналістаў «Пагоні» была пастаўленая 24 чэрвеня. Такога жорсткага прысуду ніхто не чакаў. Большасць гарадзенцаў усё ж спадзявалася на здаровы сэнс уладаў. Цяпер уся надзея на апеляцыйныя суды.

**«НН». №24. 2002.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8005. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 26.06.2012.
Замова №2306.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12